2 ліпеня 2021 | № 25 (733)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Трагедыя сцяга з «Пагоняй»
стар. 10

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ




# Заквітнеюць другія дні…

Аксана КОЛБ

**Ці хацелі б вы ведаць, што будзе заўтра? А ці змянілі б вы штосьці ў сваім жыцці, каб была такая магчымасць?**

Год таму ў гэтыя дні былі прад'яўлены абвінавачанні Віктару і Эдуарду Бабарыкам. Але не думаю, што хтосьці з іх захацеў бы змяніць свой шлях, каб ведаў, дзе праўдзе гэты год. Ужо былі закратаваныя Павел Севярынец і Мікалай Статкевіч, але, упэўненая, яны ніколі б не адмовіліся ад той барацьбы, якую вялі ўсе гады. Тысячы чалавек пачалі верыць у тое, што краіна можа быць іншай. Спадзяюся, ніхто з іх не пашкадаваў пра гэта.

Год таму, калі за кратамі былі ўжо дзясяткі актывістаў, а ў краіне пачалася рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты, неяк непрыкметна мы зноў сталі думаць пра лепшае заўтра. Тое заўтра, якое хацелася сустрэць у жніўні 2020-га. Пра якое марылі ў навагоднюю ноч, якое чакалі пасля 25 сакавіка…

Хтосьці перастаў чакаць і з'ехаў за лепшай доляй, хтосьці больш не мог чакаць і вымушаны быў з'ехаць, каб не трапіць за краты. Хтосьці проста стаміўся чакаць і сышоў ва ўнутраную эміграцыю. Але большасць з нас чакае — і крок за крокам робіць яго бліжэй. Тое заўтра, для якога назапасілі шампанскага. Заўтра, у якім з кветкамі сустрэнем тых, хто выйдзе на волю. Заўтра, з якім не сорамна будзе пайсці разам з цывілізаваным светам.

«Не хвалюйцеся з-за рашэння суда, яно было прадказальным. Мы патрываем, ведаючы, што нашым прысудам самі ведаеце хто робіць горш не нам, а сабе. Вось калі б нас вызвалілі ў зале суда, была б нагода знервавацца. Усё ідзе сваёй чаргой, усё ідзе як трэба. Вядома, нам усім хацелася б, каб усё ішло хутчэй, але галоўнае — тое, што вынік гэтага працэсу будзе дасягнуты», — напісаў у адным з лістоў каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Яўген Афнагель, які зусім нядаўна атрымаў 7 гадоў узмоцненага рэжыму.

Сапраўды, нам хацелася б, каб усё ішло хутчэй, але ўсё ідзе як трэба. Мы сталеем як нацыя. Гадуемся як грамадзянская супольнасць. Спадзяюся, што за гэты год мы прайшлі вакцынацыю і атрымалі хоць нейкі імунітэт, каб наша лепшае заўтра зноў не стала крывавым ці абсурдным учора.

*Я ня знаю, што будзе заўтра:*
*мне сягоння — апошняй мяжой;*
*дні стаяць сталёваю вартай*
*паміж будучынай і мной.*
*Знаю толькі — будзе другое,*
*заквітнеюць другія дні…*

Гэта ўрывак з верша Алеся Дудара, асуджанага пазасудовым органам НКУС 28 кастрычніка 1937-га як «члена антысавецкай аб'яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да расстрэлу.

Нягледзячы ні на што, ён верыў, што «заквітнеюць другія дні». Як вераць сотні тых, хто сёння за кратамі. Як паверылі мільёны тых, хто год таму выбраў шлях да новай Беларусі.

А мы спадзяемся, што да гэтай новай Беларусі мы з вамі пойдзем разам з «Новым Часам» і абавязкова разам адкаркуем назапашанае шампанскае.

## Шаноўныя чытачы!

Вы ўсё яшчэ можаце атрымліваць «Новы Час» у свае паштовыя скрыні. З любога месяца і любога нумару.

Што для гэтага трэба?

Любым зручным для вас спосабам паведаміць нам адрас дастаўкі газеты.

Гэта можна зрабіць:

- па рэдакцыйных тэлефонах: +375 17 347 52 81; +375 29 625 57 51;
- на рэдакцыйную электронную пошту novychas@gmail.com
- праз сацыяльныя сеткі і месенджары;
- ці нават звычайным лістом на адрас: 220113 Мінск, вул. Мележа, 1-1234.

Як толькі мы атрымаем ад вас адрас дастаўкі, мы адразу ж пачнём дасылаць вам свежыя нумары газеты.

Аплаціць кошт падпіскі (5 рублёў за месяц) вы можаце, пералічыўшы грошы на наш рахунак: Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў»

№ BY48BLBB30120190790926001001 Дырэкцыя ААА «Белінвестбанк» па Мінску і Мінскай вобл., BLBBBY2X, УНП 190790926.

Зрабіць гэта можна ў любым банку ці на пошце.

Улічвайце, калі ласка, што банк бярэ камісію 2 руб. Калі ў вас цяпер няма фінансавай магчымасці аплаціць падпіску, проста паведаміце пра гэта. Мы ў любым выпадку будзем адпраўляць вам газету. Дасылаць копіі аплаты ў рэдакцыю не трэба.

Мы цяпер працуем над тым, каб зрабіць аплату больш зручнай, але такая магчымасць з'явіцца крыху пазней.

Таксама вы проста можаце падтрымаць рэдакцыю ахвяраваннямі праз адмысловую форму на нашым сайце.

Дзякуй вам за вашу падтрымку!

# Суды, спорт, санкцыі

**«Ні дня без палітычнага працэсу!» — гэткі слоган мог бы замяніць «Квітнеючую Беларусь» на білбордах, калі б улады адлюстроўвалі становішча ў краіне. Такім выдаўся і мінулы тыдзень. Яго асноўныя падзеі — у нашым дайджэсце.**

У Гомелі 24 чэрвеня пачаўся суд па «справе Ціханоўскага» над палітвязнямі Сяргеем Ціханоўскім, Мікалаем Статкевічам, Ігарам Лосікам, Уладзімірам Цыгановічам, Дзмітрыем Паповым і Арцёмам Сакавым. Мала таго, што адвакаты ўсіх палітвязняў — пад падпіскай аб неразгалошванні і таму не могуць раскрыць дэталі працэсу. Мала таго, што суд зрабілі закрытым. Дык яго і праводзяць яшчэ на тэрыторыі гомельскага СІЗА №3.

Захады бяспекі былі беспрэцэдэнтныя. СІЗА ачапілі перад пачаткам суда, усе пад'езды да будынку, акрамя аднаго, былі перакрытыя нібыта праз рамонт. Той адзіны кантралявала ДАІ і людзі ў цывільным. Спынялі ўсе машыны, якія паварочвалі ў бок турмы. Родным абвінавачаных забаранілі здымаць каля будынка СІЗА.

Нягледзячы на вельмі «шчыльны» кантынгент, які пусцілі ў будынак СІЗА на пачатак працэсу, у сеціва трапілі кадры, як Ціханоўскі, пабачыўшы камеры афіцыйных тэлеканалаў, пракаментаваў: «Нармальны закрыты працэс». А Мікалай Статкевіч выгукнуў: «Жыве Беларусь!»

Пазней высветлілася, што тыя відэа здымала Людміла Гладкая з «СБ. Беларусь сёння».

У той жа дзень у судзе Цэнтральнага раёна Мінска распачаўся працэс аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыялы TUT.BY — сайта, сацсетак і ўсіх праектаў партала. Суд таксама зрабілі закрытым па хадайніцтве прадстаўніка МУС. Працэс вяла намесніца старшыні суда Цэнтральнага раёна Мінска ў грамадзянскіх справах Таццяна Скапец. Інтарэсы TUT.BY прадстаўляла адвакатка Марыя Анапольская. Прадстаўнік МУС — Аляксандр Крывулін.

У выпадку прызнання TUT.BY экстрэмісцкім пад гэты закон трапляў бы ці не кожны карыстальнік інтэрнэту ў Беларусі. Відавочна, спадарыня Скапец гэта ўсвядоміла, і ў яе хапіла розуму прыпыніць працэс аб прызнанні прадукцыі партала TUT.BY і сацсетак выдання экстрэмісцкімі на нявызначаны тэрмін. У сваю чаргу, TUT.BY падаў заяву аб абскарджванні дзеянняў Камісіі па вынясенні экспертнага заключэння. Яе будзе разглядаць Эканамічны суд. Дата пасяджэння пакуль не вызначаная. Таксама партал абскардзіў у судзе выключэнне яго са складу рэзідэнтаў «Парку высокіх тэхналогій». Нагадаем, што менавіта гэтае выключэнне стала падставай для абвінавачання супрацоўнікаў TUT.BY у эканамічных злачынствах — нібыта неправамерным выкарыстанні статусу рэзідэнта ПВТ і, як вынік, нясплаце падаткаў.

25 чэрвеня расіянку Сафію Сапега, затрыманую ў Мінску разам з Раманам Пратасевічам, перавялі пад хатні арышт. Крыху пазней бацькі паведамілі журналістам BBC, што пад хатнім арыштам — і сам Раман. У той жа час праваабаронцы нагадалі, што асобы, якіх змясцілі пад хатні арышт, таксама лічацца палітвязнямі. Умовы хатняга арышту палітзняволеных суправаджаюцца шэрагам абмежаванняў: ім нельга выходзіць на вуліцу, бачыцца нават з роднымі і сябрамі, карыстацца інтэрнэтам. Пры такіх умовах утрыманне палітзняволеных пад хатнім арыштам разглядаецца як у месцы несвабоды.

У той жа дзень завяршылася сесія Палаты прадстаўнікоў — і «абраннікі» не падкачалі, ухвалілі ў першым чытанні законапраект аб змене Канстытуцыі. Гэтым праектам закону прадугледжваецца ўвядзенне адзінага дня галасавання на выбарах дэпутатаў усіх узроўняў. Такім чынам, імаверна, мясцовыя выбары, якія планаваліся на канец 2021 — пачатак 2022 года, будуць перанесеныя на 2023 год. У другім чытанні законапраект будзе разглядацца на восеньскай сесіі.

У суботу, 26 чэрвеня, у Мінску праводзіліся спаборніцтвы па трыятлоне, аднак міліцыя не спала. Проста пасярод спаборніцтваў на праспекце Пераможцаў сілавікі затрымалі трох спартоўцаў — адзін пры затрыманні зваліўся з ровара на асфальт. Пазней сталічная міліцыя патлумачыла прычыны затрымання. Яны тыповыя: «Трое мужчын дэманстратыўна выкрыквалі лозунгі пратэставага кшталту, што з'явілася падставай для дастаўлення іх у тэрытарыяльны орган міліцыі». Пазней трыятланістам далі «суткі».

Рэакцыя сябе чакаць не прымусіла: ужо ў панядзелак, 28 чэрвеня, кіраўніца Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці Аляксандра Герасіменя заклікала арганізацыйны камітэт Алімпіяды ў Токіа прыняць да ўвагі інцыдэнт з затрыманнем у Мінску ўдзельнікаў гонкі трыятланістаў і пазбавіць беларускія дзяржаўныя медыя права на трансляцыю Гульняў-2020. А яшчэ BSSF затрабавала ад міжнародных спартыўных федэрацый забраць у Беларусі права на правядзенне любых рэйтынгавых турніраў. Бо, па словах Герасімені, інцыдэнт з трыятланістамі даказвае: у Беларусі ні аднаму спартсмену, дэлегату або арганізатару спаборніцтваў не можа быць гарантаваная бяспека.

А 29 чэрвеня Міжнародная асацыяцыя лёгкаатлетычных федэрацый прыслухалася да Герасімені і перанесла камандны чэмпіянат свету па спартыўнай хадзе, які павінен быў прайсці ў 2022 годзе ў Мінску. Прычынамі для такога рашэння сталі «нявызначанасць у пытанні дыпламатычных адносін Беларусі і абмежаванні на міжнародныя паездкі, накладзеныя на краіну». Ну і інцыдэнт з трыятланістамі на гэтым фоне дадаў аргументаў, канешне.

Мінск заявіў пра прыпыненне ўдзелу Сінявокай у праграме ЕС «Усходняе партнёрства». А на наступны дзень кіраўнік «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін у сваім тэлеграм-канале напісаў, што ЕС рыхтуе пяты санкцыйны пакет, які, па яго інфармацыі, прымуць ужо напачатку ліпеня.

# «Ён варты гонару і глыбокай павагі»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У Мінскім гарадскім судзе 29 чэрвеня пачалі судзіць Мікалая Дзядка — анархіста, блогера, аўтара «Новага Часу». Магчыма, на момант выхаду гэтага нумару ўжо будзе агучаны прысуд Міколу — няма ніякіх сумневаў, што ён падрыхтаваны, як і сотні іншых палітычных прысудаў.**

Але на пасяджэнні 29 чэрвеня выявілася і пару цікавых момантаў. Напрыклад, сведак, якія былі панятымі падчас ператрусу па месцы жыхарства Міколы ў ноч на 12 лістапада, дружненька прывезлі на суд і гэтак жа дружна з яго выправілі. А вось падчас ператрусу яны не былі разам, а знаходзіліся паасобку ў розных пакоях, кожны са сваёй «групай супрацоўнікаў», хаця ў пратаколе дасудовага допыту адзін са сведкаў паказаў, што ніхто ў час вобшуку нікуды не адыходзіў. Апроч таго, у вопісу вынятых падчас ператрусу рэчаў адсутнічае камера, якую сілавікі нібыта знайшлі ў актывіста.

Таксама стала вядома, што кватэра, з якой забралі Міколу, некалькі дзён пасля ператрусу стаяла адчыненая, з выламанымі дзвярыма, і не была апячатаная.

Цікавымі былі і матэрыялы шматлікіх судовых экспертызаў, якія паказалі, што Міколу Дзядку было нанесена 13 траўмаў тупым прадметам, якія нельга атрымаць у выніку падзення, а таксама, што слядоў рук на нібыта знойдзеных у Міколы бутэльках з гаручай сумессю выявіць не ўдалося. Як не ўдалося ўстанавіць у выніку лінгвістычнай экспертызы, ці былі ў яго сацсетках і месенджарах заклікі да масавых беспарадкаў. Адзінае, што складана аспрэчыць, — гэта фота Міколы на адным з пратэсных маршаў, дзе ён стаіць пасярод дарогі ў натоўпе людзей.

Хочацца спытаць у бока абвінавачання: ну і што? Там былі тысячы людзей. Адкуль узялася выснова, што галоўны «злачынца» — менавіта Дзядок? Хіба цягне на крымінальную справу тое, што «23 жніўня не пазней за 14 гадзін [Дзядок] прыбыў на перасячэнне праспекта Незалежнасці і вуліцы Янкі Купалы, прыняў удзел у супрацьпраўных дзеяннях з групай грамадзян, што пацягнула блакаванне транспартнага руху. Гэта выразілася ў выкрыкванні лозунгаў, парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства, ён адмовіўся падпарадкавацца супрацоўнікам у форменным абмундзіраванні, якія неслі працу па ахове парадку»?

Але гэта не быў бы беларускі суд, каб у сітуацыі фактычнай адсутнасці доказаў справа не стракатала б такімі выразамі, як «шляхам уздзеяння на свядомасць людзей праз інтэрнэт Мікалай Дзядок з 4 жніўня па 1 лістапада 2020 года распаўсюдзіў матэрыялы, накіраваныя на падрыў бяспекі Рэспублікі Беларусь»; «рабіў штучнае нагнятанне напружанасці паміж грамадствам і дзяржавай»; «заклікі да здзяйснення дзеянняў, накіраваныя на падрыў бяспекі Рэспублікі Беларусь»; «дзеянні Міколы Дзядка пагражалі жыццю і здароўю людзей, незалежнасці, тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь».

Зрэшты, хто сапраўды захоўваў бадзёрасць падчас гэтага сумнага відовішча, дык гэта сам Мікола. Як заўжды, падцягнуты і рухавы, ён усміхаўся родным, махаў сябрам, паказваў рукамі сэрцайкі каханай, жартаваў. Віны ні па адным з трох артыкулаў не прызнаў, на пытанні адказваў гучна, быў сабраны і ўважлівы.

Пагутарыўшы пасля пасяджэння з бацькам Міколы, Аляксандрам Дзядком, я падумала, што, напэўна, гэтая бадзёрасць у іх сямейная. Але Аляксандр прызнаўся: за апошнія 10 гадоў менавіта Мікола аказаў на яго пэўны ўплыў сваімі перакананнямі.

— Але самае галоўнае — і ў пэўнай ступені вы маеце рацыю, гэта ў нас сямейнае, — аптымізм. Мы верым у дабро і справядлівасць, і я чамусьці думаю, што мы ўсё адно пераможам. Я нават Мікалаю сказаў падчас сустрэчы: «Я веру, што ў гэтым годзе ў нас усё памяняецца».

Аляксандр Дзядок узгадвае, што калі сына пасадзілі ў турму ў першы раз у 2011 годзе, страшна за яго перажываў: Мікола быў тады зусім малады, амаль дзіця, а бацька ведаў, што з чалавекам могуць зрабіць у калоніі.

— Але калі я ўпершыню ўбачыў яго на спатканні, я зразумеў, што ён — малайчына, і ён многае здолеў там перабароць.

Бацька разважае, што характар Міколы сфарміраваўся дзякуючы таму, што з самага маленькага ўзросту ў хлопцу бачылі асобу, самастойнага чалавека.

— Яшчэ калі ён вучыўся ў пачатковай школе, у яго была мянушка «Адвакат». Бо калі ён бачыў, што ў дачыненні да каго-небудзь з аднакласнікаў з боку настаўніка здзяйсняецца несправядлівасць, ён адразу станавіўся на абарону, — узгадвае Аляксандр Дзядок. — І яшчэ я хачу сказаць: вельмі важна, што ён разумее, што галоўнае — гэта адукацыя, вучоба, спазнанне. Я сёння слухаў — яны (следства. — НЧ) намагаюцца яго агульныя тэарэтычныя разважанні аб тым, як адбываецца рэвалюцыя, падцягнуць пад тое, што нібыта ён стварыў план: бярыце палкі, шлемы, бомбы і ідзіце бамбіць нашу ўладу. Я пакідаю па-за дужкамі тыя выказванні, якія былі атрыманыя пад катаваннямі, — хаця дзяржабвінаваўца агучыў іх як доказы віны. Таму цяпер я перакананы, што Мікалай ідзе слушным шляхам. Нават калі яго ў першы раз судзілі па 411 артыкуле (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы. — НЧ) у магілёўскай турме, і мяне запрасілі ў якасці сведкі, першае, што я сказаў, — што я ганаруся сваім сынам. І я гатовы гэтыя словы гаварыць да сёй пары. Ён варты гонару і глыбокай павагі.

Па выніках пасяджэння 29 чэрвеня Аляксандр Дзядок перакананы, што па-добраму Міколу павінны вынесці «чысты апраўдальны прысуд», бо доказы віны ў справе супярэчлівыя.

— У юрыспрудэнцыі ёсць такое паняцце як аб'ектыўнае абвінавачанне, — тлумачыць былы суддзя Аляксандр Дзядок. — Але абвінавачанне патрабуе абсалютнага суб'ектызму: мы павінны сказаць, што канкрэтна гэты чалавек здзейсніў канкрэтныя дзеянні. Паняцце «склад злачынства» ўтрымлівае чатыры элементы: суб'ект злачынства, суб'ектыўны бок (форма віны — зламысная ці неасцярожная), аб'ект злачынства (на што накіравана злачынства) і аб'ектыўны бок (якія канкрэтныя дзеянні чалавек здзейсніў, каб можна было сказаць, што ён здзейсніў злачынства). У выпадку Міколы не хапае гэтых элементаў, а яму кажуць, што ён здзейсніў злачынствы.

Нагадаю, Дзядку прад'яўленыя абвінавачанні адразу па трох артыкулах Крымінальнага кодэксу: артыкул 342 — арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх; артыкул 361 — заклікі да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь; артыкул 295 — незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Самыя правільныя контрсанкцыі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі МЗС зрабіў тое, што даўно абяцаў. Урэшце былі прынятыя контрсанкцыі — а тое мы ўжо думалі, што спадар Макей можа толькі паветра страсаць рознымі пагрозлівымі заявамі.**


Фота www.iz.ru

28 чэрвеня ў МЗС быў выкліканы кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Дырк Шубель. Як паведамляе беларускае знешнепалітычнае ведамства (цікава: знешняй палітыкі няма, а ведамства ёсць), у ходзе сустрэчы «паслу Еўрапейскага саюза была заяўлена цвёрдая пазіцыя беларускага боку аб абсалютнай непрымальнасці прымянення санкцый як інструмента ціску на суверэнную і незалежную дзяржаву. Дыпламату даведзеная інфармацыя аб канкрэтных кроках у рамках вымушанага рэагавання на дзеянні, якія пагражаюць нацыянальнай бяспецы Беларусі і наносяць найпростаую шкоду яе эканоміцы і грамадзянам».

У якасці адказу на санкцыі Беларусь прыпыняе ўдзел у ініцыятыве «Усходняе партнёрства»; пачынае рэалізацыю прыпынення дзеяння пагаднення аб рэадмісіі з ЕС; сталы прадстаўнік Беларусі ў ЕС адклікаецца ў Мінск для кансультацый; кіраўніку прадстаўніцтва ЕС у Беларусі прапанавана выехаць у Брусель для кансультацый; Беларусь забараняе ўезд прадстаўнікам еўраструктур і асобам з краін ЕС, якія садзейнічалі ўвядзенню абмежавальных захадаў.

Канешне, некаторыя сумуюць з гэтай нагоды: маўляў, рэжым стварае «штучную ізаляцыю краіны ад Еўропы і ад сусветнай супольнасці» (прынамсі, так гаворыцца ў заяве Партыі БНФ). А я так скажу: прыпынілі «Усходняе партнёрства» — і слушна зрабілі! Вельмі слушна!

Што такое ў прынцыпе «Усходняе партнёрства»? Гэта была праграма і пляцоўка па збліжэнні Беларусі і ЕС. Гэта было «акно магчымасцяў», праз якое можна было нешта зрабіць — пры жаданні гэта зрабіць. Цяпер улады гэтае акно прыкрылі.

Прыпыненне ўдзелу Беларусі ва «Усходнім партнёрстве» азначае, напрыклад, што тыя грамадзяне, якія займаюць цяпер месцы ў Палаце прадстаўнікоў, больш не змогуць катацца ў Еўропу на пасяджэнні парламенцкай асамблеі «Еўранэст». Сапраўды, што ім там рабіць? Апраўдвацца за новы закон аб СМІ? Хваліцца новымі законамі аб экстрэмізме альбо масавых мерапрыемствах?

У межах праграмы «Усходняе партнёрства» ЕС выдаткоўваў мільён еўра, напрыклад, на такую праграму, як доступ жанчын да правасуддзя. Я думаю, шмат хто з жанчын, якія проста гулялі ў белым альбо чыталі ў электрычках беларускія кнігі, ацанілі і «доступ да правасуддзя», і праграму ЕС, «дзякуючы» якой гэты «доступ» ажыццяўляўся. 940 тысяч еўра праз «Усходняе партнёрства» Еўропа выдаткавала на «ўмацаванне доступу да правасуддзя з дапамогай пазасудовых механізмаў для ахвяраў дыскрымінацыі». Тая ж праграма прадугледжвала 800 тысяч еўра на «ўмацаванне захадаў па папярэджанні эканамічных злачынстваў». Віктар Бабарыка і астатнія фігуранты справы «Белгазпрамбанку» проста пляскаюць у ладкі!

Цікавым быў праект «Мэры за эканамічны рост». Аб'ём еўрапейскіх інвестыцый у 2017–2020 гадах па гэтай праграме склаў 1,6 мільёна еўра. Рост дабрабыту мэраў за кошт еўрапейскіх падаткаплацельшчыкаў таксама будзе замарожаны.

Карацей, правільна зрабілі, што прыпынілі «Усходняе партнёрства». І правільна зрабілі, што зрабілі не так, як Еўропа са сваімі санкцыямі — без агаворак, што «ўсе падпісаныя да пэўнай даты кантракты дзейсныя да іх заканчэння». МУС, Міністэрства юстыцыі, суды і суддзі проста цяпер адрэжуць ад еўрапейскіх праграм і грошай.

Забарона на ўезд прадстаўнікам еўраструктур і асобам з краін ЕС, якія садзейнічалі ўвядзенню абмежавальных захадаў, — моцны крок. Не адпачне цяпер Жазэп Барэль на Нарачы, не пабывае Хайка Маас у Нясвіжы, а кіраўнік МЗС Літвы Габрыэлюс Ландсбергіс зможа пабачыць Астравецкую АЭС толькі ў бінокль з таго боку мяжы. Яны б, канешне, і так да нас не даляцелі, бо ў Беларусь еўрапейскія самалёты не лётаюць, але ж раптам бы яны пратачыліся праз мяжу шляхамі нелегальных мігрантаў?

Канешне, будзем шчырымі: існавала такая пляцоўка, як «Форум грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства». Але пасля 2020-га ў нас змянілася не толькі форма «грамадзянскай супольнасці», але і само паняцце. Цяпер «грамадзянская супольнасць» і недзяржаўныя арганізацыі, так званы «трэці сектар» — гэта зусім розныя рэчы. І калі Макей думаў, што прыпыненнем удзелу Беларусі ва «Усходнім партнёрстве» ён «прышчучыць» грамадзянскую супольнасць — то думаў дарэмна.

Не скажу, што ад нашых «контрсанкцый» пацерпіць Еўропа, але іх вынікі ўсё ж ёсць. Толькі за апошні месяц у Беларусі разваліліся пяць мастоў, і паведамленні пра іх абрушэнне працягваюць паступаць. Раней грошы на такую інфраструктуру даваў ЕС, цяпер жа Беларусь будзе краінай пантонных мастоў: прынамсі, так вырашылі праблему ў Наваполацку і Бешанковічах. Праўда, што рабіць там, дзе масты абрыняцца не цераз раку, дагэтуль незразумела.

Цікавая навіна і з ідэалагічнага фронту. З дзяржаўнага часопіса «Маладосць» сышлі ўсе супрацоўнікі. На пачатку года ў «Маладосці» працавалі пяць чалавек. У лютым была звольненая галоўная рэдактарка Святлана Воцінава, а саму «Маладосць» вырашылі перадаць з выдавецкага дому «Звязда» выдавецтву «Мастацкая літаратура». У выніку звольніліся ўсе астатнія.

Калі ў 1990-х гадах наклад часопіса сягаў 10 тысяч, то травеньскага нумару выйшла ўсяго 597 асобнікаў. Часопіс, у якім друкаваліся Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Янка Маўр, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч і іншыя — фактычна знік.

І яшчэ прарэзаліся наступствы дзеянняў па прынцыпе «іншым разам не да законаў». Згодна з даследаваннем кампаніі-вытворцы сістэм барацьбы з уцечкамі даных DeviceLock, тэлефонныя махляры, якія спрабуюць атрымаць даныя банкаўскіх картак даверлівых грамадзян, змянілі тактыку. Цяпер яны прадстаўляюцца не «прадстаўнікамі службы бяспекі банка», а «супрацоўнікамі праваахоўных органаў, якія ажыццяўляюць расследаванне». Доля ашуканцаў, якія выдаюць сябе за праваахоўнікаў, вырасла з 40% да 80%.

За што змагаліся — на тое і нарваліся.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Дзяніс Івашын

**Маці зняволенага журналіста, аўтара газеты «Новы Час» Дзяніса Івашына Людміла Івашына даведалася, што ў сына ў карцары здарыўся сардэчны прыступ.**

«Мне стала вядома, што падчас знаходжання ў карцары ў Дзяніса здарыўся сардэчны прыступ. Ніколі раней падобнага не было. Не дзіўна, бо ў камеры "парыльня" — вокны зачыненыя, вентылятар перадаць нельга. Усё гэта называецца словам "катаванне"», — напісала яна ў Facebook.

Людміла Івашына нагадала, што «карнікам рана ці позна давядзецца адказваць перад законам», і звярнулася да сваякоў вязняў: «Многія з вас, таксама як і я, вядуць "перапіску" з так званымі "сілавымі" органамі, пішам заявы, хадайніцтвы і іншае. Захоўвайце ўсе копіі гэтай перапіскі, усе квітанцыі заказных лістоў і іншае. Усё гэта спатрэбіцца ў судах пры іншай уладзе і іншай судовай сістэме».

Маці расказала, што Дзянісу зрабілі ЭКГ і далі лекі «ад сэрца». Яна спадзяецца, што «Дзяніс будзе пад медычным кантролем і што дрэннага не здарыцца».

Пра тое, што Івашына змясцілі ў карцар, стала вядома 21 чэрвеня. Раней, у траўні, яго таксама садзілі ў карцар на 7 сутак. Тады там было невыносна холадна.

### Глафіра Жук



**Журналістку «Народнай Волі» Глафіру Жук выключылі з трэцяга курса факультэта журналістыкі БДУ за пропуск сесіі. Падчас іспытаў яна адбывала 30 сутак арышту на Акрэсціна.**

Дзяўчыну затрымалі 29 траўня ў салоне прыгажосці, пасля чаго суд арыштаваў яе на 30 сутак нібыта за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве.

За два тыдні да гэтага журналістка асвятляла суд па справе студэнтаў, і ў сацсетках апублікавала фота людзей каля будынка суда і сваіх кедаў пасля таго, як уцякла ад сілавікоў. Суд палічыў гэта доказам.

«Я прыйшла рабіць манікюр. Мне папшыкалі рукі антысептыкам, майстар узяла інструмент, і тут заходзяць трое мужчын, паказваюць адміністратару пасведчанні. І я ўжо разумею, што гэта па мяне. Я спытала, чаму не затрымалі дома, каб мне вопратку ўзяць, таму што я ў адной кашулі. Яны кажуць: так нецікава», — распавяла яна.

За 30 сутак, якія дзяўчына правяла ў ізалятары, у яе ва ўніверсітэце прайшла сесія. Глафіра Жук прапусціла ўсе іспыты, і яе выключылі.

### Віктар Бабарыка



**Экс-банкір, прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта, выступіў у судзе з апошнім словам.**

Віктар Бабарыка спыніўся ў сваёй прамове «на чалавечай сітуацыі». Ён сказаў, што пражыў ладны кавалак жыцця, і цяпер, у гэтай клетцы, яму не сорамна перад сваёй сям'ёй: «Мне не сорамна, бо перад рашэннем, прынятым у траўні, яны ведалі, што я не падманваю».

Паводле Бабарыкі, прызнаючыся ў злачынствах, якіх ён не ўчыняў, магчыма, ён меў бы нейкія матэрыяльныя выгады. «Я не магу прызнаць злачынства, якога я не ўчыняў, — сказаў ён. — Мне не сорамна перад блізкімі, бо не было допушчана процізаконных дзеянняў і нават намёку на ўчыненне процізаконных дзеянняў». Яму не сорамна перад супрацоўнікамі банка, бо быў створаны найлепшы банк у краіне, перад тымі, хто разам сядзіць у клетцы і лічыць яго злачынцам.

Яму не сорамна і перад іншымі: «Не сорамна перад тымі, хто паверыў мне і стаў чальцом штаба», — сказаў Бабарыка. Ён сказаў, што сотні тысяч тых, хто паставіў подпісы, верылі, што можна пабудаваць краіну з агульначалавечымі каштоўнасцямі. «Я сумленны перад імі», — сказаў ён.

«Я ведаю ацэнку, якую паставілі мне дзеці: за тату не сорамна». Паводле Бабарыкі, жыццё — марафон, і на гэтай дыстанцыі іншы раз даводзіцца рабіць выбар. Ён сказаў, што мы робім не для сябе, а для дзяцей, і каб «на гэтай дыстанцыі вы пачулі тую ж думку, што ім за вас не сорамна».

Суд пачаўся 17 лютага. На пасяджэнні 6 красавіка Бабарыка заявіў пра сфабрыкаванасць справы і адмовіўся даваць паказанні. 22 чэрвеня пракурор Сяргей Гіргель папрасіў пакараць былога банкіра 15 гадамі зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прысуд па «справе "Белгазпрамбанка"» будзе абвешчаны 6 ліпеня.

Азбука паліталогіі

# Двое на полюсе праўды



Сяргей НІКАЛЮК

**Колькасць мярзотнікаў, якая расце па экспаненце, — выдатная нагода, каб «збірацца ў кучу», або хаця б у зграю, табун ці статак.**

«За намі праўда». Гэта цытата з выступу адзінага палітыка (АП) у Брэсце 22 чэрвеня. Хто б сумняваўся. Ёсць такая ўласцівасць у праўды: яна заўсёды ідзе за намі. У гэтым лепшым з сусветаў ёй больш няма за кім ісці.

У гады супрацьстаяння двух сістэмаў праўда была на нашым баку. А як жа інакш? Не магла ж яна быць на баку купкі капіталістаў, што тлусцелі на эксплуатацыі ўласных народаў і народаў краін трэцяга свету.

Капіталістаў — купка. Эксплуатаваных — большасць. А дзе большасць — там і праўда. Але ў 1974 годзе ў выніку «Красавіцкай рэвалюцыі» была зрынутая дыктатура ў Партугаліі — і панеслася... Тое, што на бытавой мове прынята называць «эфектам даміно», на мове паліталогіі атрымала назву «трэцяй хвалі дэмакратызацыі 1974–1991».

Фінальным акордам трэцяй хвалі стала крушэнне таталітарнай камуністычнай сістэмы і яе флагмана — СССР, што дазволіла амерыканскаму палітолагу Фрэнсісу Фукуяму абвясціць пра канец гісторыі.

Гэта была не першая спроба такога кшталту. У Фукуямы быў папярэднік — Маркс. Нагадаю фінал «Маніфеста камуністычнай партыі»: «Пралетарам няма чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў. Набудуць жа яны ўвесь свет».

Свету пралетарыяў, свету, у якім адсутнічаў бы падзел людзей на класы эксплуататараў і эксплуатаваных, не атрымалася. Але спробы пабудаваць такі свет рабіліся неаднаразова. Яны абышліся чалавецтву амаль у 100 мільёнаў жыццяў. Па агульнай колькасці ахвяр па-за канкурэнцыяй аказаліся кітайскія таварышы — 65 мільёнаў, а па эфектыўнасці (у суадносінах колькасці знішчаных да агульнай колькасці насельніцтва) — чырвоныя кхмеры ў Кампучыі.

Але якой бы колькасцю ахвяр ні вымяраліся поспехі камуністаў на шляху да бяскласавага грамадства, праўда нязменна была на іх баку.

Канец гісторыі Фукуяма звязаў з паўсюдным распаўсюджваннем ліберальнай дэмакратыі заходняга ўзору, што павінна было сведчыць пра канчатковы пункт сацыякультурнай эвалюцыі чалавецтва і фарміраванне канчатковай формы ўрада.

Што тычыцца формы, прадказанне амерыканскага палітолага спраўдзілася. Прынамсі, адразу і не прыгадаеш краіну, у Канстытуцыі якой не замацаваны прынцып падзелу ўладаў, а адзінай крыніцай улады не абвяшчаўся б народ.

### Што ў сухім астатку?

Расійскі палітолаг Кацярына Шульман любіць нагадваць, што прадметам паліталогіі з'яўляюцца трансфармацыі («яна цікавіцца тым, што мяняецца»). Адсюль — нелюбоў паважанага мной аўтара да гістарычных паралеляў. У кнізе «Практычная паліталогія. Дапаможнік па кантакце з рэальнасцю» чытаем: «Час перастаць разумець літаральна тое, як Маркс жартаваў з Гегеля: гісторыя не паўтараецца ні як трагедыя, ні як фарс. Паколькі колькасць гістарычных фактаў бясконцая, вялікая верагоднасць, што надзвычайнае падабенства мінулага з сучаснасцю заснаванае альбо на магіі лічбаў (1914/2014), альбо на высвечванні адных з'яў і ігнараванні іншых».

Шульман моршчыцца пры слове «каляіна». Мне ж яно падабаецца. Гістарычны працэс без каляіны — як шлюбная ноч без нявесты. Тым не менш абсалютызаваць каляіну не варта. «Усё цячэ, усё мяняецца», — сцвярджаў старажытнагрэчаскі філосаф Геракліт (554–483 да н.э.). Мяняецца з часам і каляіна.

Савецкі Саюз распаўся ў 1991 годзе на 15 незалежных рэспублік, але ні адна з іх, калі атрымала свабоду выбару, не здолела вырвацца з цывілізацыйнай каляіны.

**Уклад у сусветны ВУП толькі ЗША і Еўрасаюза перавышае 50%, а Беларусі і Расіі — не дацягвае і да 2%. Здавалася б, слон і моська. Але на баку аб'яднанай моські сёння праўда, памножаная на духоўнасць, і 135-е месца Расіі ў індэксе карупцыі**

Сталі часткай Еўрасаюза Літва, Латвія і Эстонія — гэта значыць, рэспублікі, чые народы на працягу стагоддзяў мелі магчымасць асвойваць культурныя інавацыі Захаду. Дзякуй Балтыйскаму мору! Нядзіўна, што ўключэнне ў склад СССР у 1939–1940 гадах большасць літоўцаў, латышоў і эстонцаў успрынялі як акупацыю.

У шасці мусульманскіх рэспубліках усталяваліся палітычныя рэжымы, якія можна смела аднесці да сучасных султанатаў. Зразумела, не без нацыянальных асаблівасцяў, але ні адна з іх не выходзіць за цывілізацыйныя межы.

Што ў сухім астатку? У сухім астатку шэсць праваслаўных рэспублік. Усе яны на перабудовачнай хвалі эйфарыі заявілі пра сваё жаданне стаць часткай Вялікай Еўропы. Аднак час усё расставіў на свае месцы. За тры дзесяцігоддзі нікому змяніць сваю цывілізацыйную ідэнтычнасць так і не атрымалася, што не выключыла расколу ўнутры таварышаў па няшчасці: у той час, як у Арменіі, Грузіі, Малдове і Украіне праеўрапейскія настроі ўзмацняюцца, у Беларусі і Расіі (у першую чаргу ў палітычных элітах) ідзе адваротны працэс.

### Адчайвацца не варта

Мабыць, і не прыгадаць, калі ў апошні раз выступ АП рабіў на мяне такое ўражанне. Цытата: «На рэалізацыю “каляровага бліцкрыгу” былі кінуты велізарныя фінансавыя рэсурсы. За апошні год мы зведалі на сабе дзеянне самых сучасных тэхналогій гібрыднай вайны. Беларусы ўсё часцей пытаюцца: дык што, ваяваць будзем? Беларусы, мы ўжо даўно ваюем. Проста вайна набыла іншыя формы. Ужо не будзе тых войнаў, ужо ў гэтыя вароты (Брэсцкай крэпасці. — Заўвага) яны не папруць тысячамі салдат. Вайна пачнецца і заўсёды пачынаецца ў сучасных умовах знутры дзяржавы» (22.06.2021).

Дзе бацькоўскі шынель, дзе шынель майго дзеда? А дзе шынель майго прапрадзеда, які ваяваў з аб'яднанай Еўропай у Севастопалі?

Ім было прасцей: на гэтым беразе — свае, на тым — ворагі. Але сучасныя войны пачынаюцца знутры дзяржавы, і год народнага адзінства — вайне не перашкода. Як выявіць у адзіным і згуртаваным народзе ворагаў? Жонка падказвае: па чырвонай палосцы на белых шкарпэтках. Сур'ёзны аргумент. Шкарпэткі ідэалагічна чужой расфарбоўкі — элемент гібрыднай вайны. Далёка не другасны элемент, між іншым.

Але чырвоную палоску на шкарпэтках лёгка зафарбаваць, замазаць або заляпіць. Урэшце яе можна схаваць пры дапамозе другіх шкарпэтак — ідэалагічна нейтральнай расфарбоўкі.

Мае рацыю АП — «свет змяніўся, ашалеў». Але адчайвацца не варта. Шлях да выратавання ўказаны: «у такой сітуацыі разумныя людзі аб'ядноўваюцца вакол нейкага чалавека, нейкай групы людзей. Збіраюцца ў кучу і стараюцца выстаяць, выжыць» (09.04.2021).

Але куча — гэта, як правіла, нагрувашчанне вялікай колькасці неадушаўлёных аб'ектаў. У нашым выпадку лепш казаць пра зграю або статак як сукупнасць жывых істотаў, якія дэманструюць каардынаваныя паводзіны.

Расійскі палітолаг і філосаф Рыгор Юдзін са мною б паспрачаўся. Сумнеўнае з эстэтычнага пункту гледжання нагрувашчванне неадушаўлёных прадметаў ён прапануе замяніць акуратна падабранымі адзін да аднаго каласкамі або галінкамі, абхопленымі кольцам. У італьянскай мове для падобнай канструкцыі маецца адмысловае слова — фашына. Гэтае слова і вытворныя ад яго нескладана адшукаць і ў славянскіх мовах.

### Расслабляцца рана

«Мы даўно ваюем». Але мы — гэта хто? З чаго вынікае, што і ў аўтара «Азбукі паліталогіі» маецца падстава прылічваць сябе да абраных, аб'яднаных у кучу, зграю, статак, рой, табун і пазначаных для сціласці займеннікам першай асобы множнага ліку «мы»? Можа ён, заклапочаны пошукам шынялю, дарэмна марнуе час?

Не, не дарэмна! Залогам таму з'яўляецца праўда. Здрадзіць можа сябар, жонка, сяброўка жонкі, але праўда — заўсёды за намі. І ўсё роўна, у большасці мы або на безназоўнай вышыні нас засталося толькі двое — Беларусь і Расія. Гэта і раздражняе тых, хто сёння ў большасці.

22 чэрвеня 2021 года свет канчаткова падзяліўся на *тых* і на *гэтых*: на «мярзотнікаў па той бок мяжы» і носьбітаў праўды, чыя роля ў гісторыі на бліжэйшыя гады звядзецца да дэманстрацыі бяссілля «іх санкцый».

Маштаб задачы складана пераацаніць: уклад у сусветны ВУП толькі ЗША і Еўрасаюза перавышае 50%, а Беларусі і Расіі — не дацягвае і да 2%. Здавалася б, слон і моська. Але час панавання вульгарнага матэрыялізму з яго скрупулёзнымі падлікамі матэрыяльных рэсурсаў застаўся ў мінулым. На баку аб'яднанай моські сёння праўда, памножаная на духоўнасць, і 135-е месца Расіі ў індэксе карупцыі.

Зразумела, расслабляцца рана. Нашы перспектывы акрамя падкопаў з боку мярзотнікаў упіраюцца і ў дысцыпліну. Нягледзячы на наяўнасць кадраў, якія авалодалі ўсімі тэхналогіямі, безгаспадарчасць часам здзіўляе. А не дай бог вайна? «Чаму цяпер, у адносна мірны час мы не хочам папрацаваць? Усё ж у дысцыпліне. Толькі дысцыпліна» (24.06.2021).

Ці здольныя разумныя людзі, аб'яднаныя вакол нейкага чалавека, у сітуацыі, якая склалася, наладзіць дысцыпліну? Я б даў на гэта пытанне, што паўтараецца з года на год, сцвярджальны адказ. Мой аптымізм заснаваны на колькасці мярзотнікаў, якая расце па экспаненце. Бо нішто так не мабілізуе ўнутраныя рэзервы, як наяўнасць мярзотнікаў ля знешніх межаў. Яны для таго і плодзяцца. Іх для таго і плодзяць.



# «Удар на капейку» ці «Галодныя гульні»?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Сектаральныя санкцыі, якія ўвёў Еўрасаюз у дачыненні да Беларусі, ацэньваюцца супрацьлегла. Некаторыя кажуць, што яны «апусцяць» рэжым прыкладна на 7–8% ВУП краіны. Іншыя сцвярджаюць, што санкцыі недастатковыя, не вельмі «сектаральныя», і, нібыта, ЕС зноў зрабіў «дэманстрацыю намераў». Напэўна, праўда, як звычайна, недзе пасярэдзіне.**



## Супярэчлівыя рашэнні

Сектаральныя санкцыі ад пачатку выклікалі занепакоенасць. Потым, сапраўды, высветлілася, што ўсё не вельмі страшна. Усе былі ўзрушаныя з-за таго, што пад абмежаванне трапілі калійныя ўгнаенні. Потым, як высветлілася, — не ўвесь калій. У рашэнне Еўрасаюза ўключана забарона на пастаўкі хларыду калію з утрыманнем K20 менш 40% і больш 62% (коды CN31042010 і 31042090), аднак хларыд калію з утрыманнем K20 ад 40% да 62% у пастанове адсутнічае (код CN31042050), а менавіта гэтая пазіцыя і з'яўляецца асноўнай прадукцыяй «Беларуськалію».

Санкцыі не распаўсюджваюцца на кантракты, заключаныя да 25 чэрвеня 2021 года, і дадатковыя кантракты, неабходныя для выканання такіх пагадненняў. Гэтая агаворка прысутнічае ў артыкулах, якія тычацца забароны на закупкі і транзіт тавараў і тэхналогій падвойнага прызначэння для выкарыстання ў ваенных мэтах, нафтапрадуктаў, калійных угнаенняў, а таксама сыравіны і вырабаў для тытунёвай галіны. Такім чынам, экспарт калійных угнаенняў і нафтапрадуктаў па кантрактах, заключаных да 25 чэрвеня, магчымы, роўна як і транзіт праз Еўрасаюз, у тым ліку праз порт Клайпеды.

Кантракты на калій дзейнічаюць ад паўгода да года. Кантракт на транзіт угнаенняў з тэрміналам у Клайпедзе заключаны да 2023 года. Гэта значыць, яшчэ паўтара года беларускі калій можа пастаўляцца праз балтыйскі порт, калі ў айчынных экспарцёраў будуць дзейнічаць кантракты, заключаныя з пакупнікамі да 25 чэрвеня.

У табліцы з пералікам забароненых да экспарту з Беларусі нафтапрадуктаў ёсць код 2710. Па афіцыйных нормах ЕС, сюды адносіцца шырокі пералік тавараў. У прыватнасці, гэта ўайтспірыт, авіяцыйнае паліва, газойль (можа быць кампанентам дызпаліва), мазут, змазачныя, маторныя алівы і іншае.

Раней медыя збіла з панталыку кароткае апісанне гэтага кода непасрэдна ў дакуменце аб сектаральных санкцыях — у ім не згаданы бензін. Аднак поўнае апісанне таварных кодаў ЕС абвяшчае, што да групы 2710 адносяцца і аўтамабільныя бензіны з розным актанавым чыслом. Ёсць у групе і дызпаліва.

Аднак многія заўважылі, што ў гэтых санкцыйных пунктах няма слова «indirectly» — «ускосна». Такім чынам, верагодна, беларускія нафтапрадукты ў Еўропу могуць пастаўляцца — але праз пасярэднікаў, якія будуць закупляць той жа бензін ў Беларусі, а прадаваць яго, напрыклад, пад маркай расійскага ў ЕС.

У фінансавай частцы сектаральнага пакета, у прыватнасці, гаворыцца, што нельга наўпрост або апасродкавана заключаць дагаворы аб пазыках і крэдытах, тэрмін пагашэння якіх перавышае 90 дзён пасля 29 чэрвеня 2021 года. Але, зноў жа, маюцца на ўвазе не ўсе пазыкі, а тыя, што прызначаныя для дзяржаўных органаў Беларусі ці юрыдычных асобаў з дзяржпакетам больш за 50% па стане на 29 чэрвеня 2021 года. Пад гэтыя абмежаванні падпадаюць «Беларусьбанк», «Белаграпрамбанк», «Белінвестбанк». Калі ў кампаніі 49% акцый дзяржавы, то яна не падпадае пад санкцыі.

Фактычна, спыняюцца ўсе крэдытныя праграмы Еўрапейскага інвестбанка. Таксама краіны-ўдзельніцы ЕС не змогуць выступаць на карысць выдачы крэдытаў Беларусі ў такіх міжнародных інстытутах, як Сусветны банк і іншыя.

Па тытуню санкцыі закранулі 4 таварныя пазіцыі: фільтры, цыгарэтную паперу, араматызатары для тытуню, машыны для жылкавання або рэзкі тытунёвага ліста. Шмат хто кажа, што гэтыя машыны і сыравіну можна закупіць і ў іншых месцах — не ў ЕС.

Дэталёвы аналіз санкцый і даў падставы казаць, што ў ЕС быў «замах на рубель, а ўдар на капейку». Кіраўнік Цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук, які першапачаткова сцвярджаў, што «страты Беларусі могуць скласці 4–7% ВУП (ад 2,4 да 4,2 млрд. долараў)», пасля азнаямлення з канкрэтнымі артыкуламі расчараваўся: «Гара нарадзіла мыш. Так, санкцыі супраць МАЗа і БелАЗа непрыемныя, але відавочна не смяротныя… Які мэсідж атрымалі ад новага пакета санкцый ЕС? Пагразілі, памахалі кулакамі на бяспечнай адлегласці, пашчыпалі, паабяцалі кантраляваць… І зноў чакаюць праяў разважлівасці», — напісаў ён.

## Прымус да змены паводзінаў

Тым не менш, на санкцыі існуе і іншы пункт гледжання. Санкцыі не накіраваныя на тое, пра што кажуць афіцыйныя прапагандысты. А яны з заліхвацкім задорам кажуць, што «падступны Захад падштурхоўвае наш народ да голаду». Дык вось, «Галодныя гульні» ад заходніх санкцый не пачнуцца.

Санкцыі — гэта не самамэта. Санкцыі — гэта інструмент. Інструмент ціску на незгаворлівых людзей, якія не жадаюць гуляць па ўсталяваных правілах. Калі ўлады Беларусі прымусова пасадзілі самалёт Ryanair, паставіўшы пры гэтым пад пагрозу жыцці пасажыраў, — атрымалі санкцыі і закрыццё паветраных зносін. Калі цяпер улады Беларусі пачынаюць выкарыстоўваць мігрантаў як спосаб ціснуць на Літву — гэта новы выклік бяспецы Еўрасаюза (пра што ўжо пісалася неаднаразова). За гэтымі крокамі могуць рушыць новыя санкцыі. І так будзе да таго часу, пакуль улада Сінявокай будзе кідаць выклік міжнароднай супольнасці.

Як справядліва і прыгожа напісаў тэлеграм-канал «Лісты да дачкі», калі мэта санкцый «анігіляцыя беларускай эканомікі і галодныя бунты, тады санкцыі, вядома, недастатковыя. А калі мэта — вывесці беларускія ўлады са звыклай рэпрэсіўнай зоны камфорту, тады пра дастатковасць можна меркаваць зыходзячы з наступстваў. Пачнуць выходзіць з зоны камфорту — значыць, санкцыі былі дастатковымі».

Таму, калі мэта, як піша той жа канал, «змена некаторых палітычных традыцый, то ўводзіць санкцыі масавага паражэння на самай справе было б не вельмі лагічна. Стрэліш ты адразу з усіх гармат, а суб'ект санкцый змяняць сваіх палітычных звычак не захоча. І што рабіць пасля таго, як страціў увесь арсенал?»

Таму Еўропа, з аднаго боку, пакідае сабе прастору для далейшага манеўру, а з другога — наносіць беларускай эканоміцы досыць адчувальны ўрон. Па розных падліках, санкцыі абыдуцца ўладам прыкладна ў паўмільярда долараў. Для краіны, у якой атрымаць крэдыт у паўтара мільярда лічыцца дасягненнем, — гэта адчувальна.

**Еўропа, з аднаго боку, пакідае сабе прастору для далейшага манеўру, а з другога — наносіць беларускай эканоміцы досыць адчувальны ўрон. Па розных падліках, санкцыі абыдуцца ўладам прыкладна ў паўмільярда долараў**

## Эфекты сінергіі

Паўмільярда долараў — гэта прамыя страты беларускай эканомікі. А праца ва ўмовах санкцый выкліча страты і ўскосныя. І гэтыя страты — не нейкія «рэпутацыйныя выдаткі», на якія афіцыйны Мінск даўно забіў цвік, а канкрэтныя сумы і ўкладанні.

Каб усё ж такі прадаваць беларускія нафтапрадукты ў Еўропу, трэба зарэгістраваць новыя фірмы-«пракладкі», напрыклад, у Расіі — гэта час і грошы. Трэба выбудоўваць новыя ланцугі паставак так, каб бензін ад гэтых фірмаў не асацыяваўся з Беларуссю — гэта зноў час і грошы.

«Адтэрміноўка» санкцый па калійных кантрактах, на думку адмыслоўцаў, дае Беларусі час на пераарыентацыю экспартных патокаў калію ў расійскія порты. Цяпер у Расіі не хапае магутнасцяў для перавалкі нават сваіх угнаенняў. Яшчэ летась Лукашэнка прапанаваў губернатару Ленінградскай вобласці пабудаваць сумесны порт, які можна выкарыстоўваць для перавалкі беларускага калію. У красавіку расійскі бок прапанаваў Сінявокай дзве пляцоўкі для тэрмінала — ва Усць-Лузе і Высоцку.

Будаўніцтва порту — гэта час і грошы. Вельмі буйныя грошы, якія, ва ўмовах фінансавых санкцый, невядома дзе браць. Зноў прасіць крэдыты ў Расіі? Але пакуль і Расія не спяшаецца іх выдаваць, і наўрад ці выдасць — нават калі яны пойдуць на развіццё сваёй інфраструктуры.

З-за павелічэння транспартнага пляча «Беларуськалію» трэба будзе дакупляць вагоны, прыкладна 1000 штук. Акрамя таго, істотна ўзрастуць выдаткі на абслугоўванне вагонаў, бо падвойваецца прабег у разліку на перавезеную тону. Да таго ж ёсць праблема вывазу больш за мільён тон калію кантэйнерамі (у той жа Усць-Лузе няма кантэйнернага тэрмінала), а зімой спатрэбяцца суда лядовага класа… І ўсё гэта каштуе грошай, грошай, і яшчэ раз грошай, якія ўзяць няма адкуль.

Сектаральныя санкцыі — гэта асобны санкцыйны спіс, а яшчэ існуюць асобныя чатыры санкцыйныя пакеты ад ЕС, і яшчэ — санкцыі ад ЗША. Калі да санкцыйнага калію дадаць прадукцыю санкцыйнага «Гродна-Азота» — атрымліваюцца санкцыйныя двухкампанентныя азотна-калійныя ўгнаенні. У сектаральны спіс, як ужо заўважалася, трапілі тры дзяржаўныя банкі. А ў чацвёрты пакет санкцый — Аляксей Алексін, якому давялося тэрмінова мяняць уласніка МТБанка.

Канешне, мы можам закупіць тытунёвую паперу і фільтры па-за межамі ЕС. Але колькі гэта будзе каштаваць і якая будзе якасць гэтай прадукцыі?

Так што ўсё ж санкцыі не трэба называць «ударам на капейку». Калі глядзець на іх комплексна — гэта добры ўдар рублём.

## Будзе балюча?

Тое, што ўладам будзе балюча, сведчыць адно рашэнне Нацбанка. Рэгулятар дазволіў камерцыйным банкам свабодна ўсталёўваць стаўкі па валютных укладах фізічных асоб. Верагодна, у надзеі на тое, што насельніцтва, якое ў апошні час з'яўляецца пакупніком валюты, панясе валюту ў банкі пад «добры» працэнт. Гэта азначае, што валюта вельмі патрэбная.

Таму, хто рашыцца «згуляць на сквапнасці», варта ведаць: яшчэ ў красавіку быў падпісаны ўказ, згодна з якім Нацбанк і ўрад могуць уводзіць валютныя абмежаванні «ў выпадках пагрозы эканамічнай бяспецы Беларусі і стабільнасці яе фінансавай сістэмы». Так што ёсць перспектыва атрымаць свае ўклады рублямі — калі яны, канешне, увогуле не будуць замарожаныя.

У другім паўгоддзі гэтага года нам трэба выплаціць па знешнім доўгу 2,4 мільярда долараў. Ва ўмовах санкцый.

# «Я заўжды пішу сыну, што мы з ім моцныя і ўсё вытрымаем»

Дзіяна СЕРАДЗЮК



**У Мінску судзяць палітвязня Арцёма Касакоўскага — 23-гадовага оптыка з Ліды, якога абвінавачваюць у намеры ўдзельнічаць у масавых беспарадках, а таксама наўмысна пашкодзіць маёмасць. Маці хлопца Святлана Касакоўская некалькі разоў на тыдзень ездзіць за 150 кіламетраў з Беняконяў, дзе жыве, у Мінск, каб адвезці на «Валадарку» перадачу сыну і яго «непалітычным» сукамернікам, якім амаль ніхто нічога не перадае. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Святлана горача падтрымлівае Арцёма і верыць у перамогу.**

### Маці не пазнала сына

Арцёма Касакоўскага затрымалі 27 верасня мінулага года ў Мінску перад нядзельным маршам і завялі справу па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэксу (удзел у масавых беспарадках). Пазней яму выставілі яшчэ адно абвінавачанне — па ч. 3 арт. 218 (наўмыснае пашкоджанне маёмасці) — нібыта хлопец хацеў пашкодзіць шапік «Табакерка». Перад кожным з гэтых артыкулаў ідзе прыпіска: арт. 13 ч. 1 — намер. То-бок, судзяць Арцёма нават не за нейкія дзеянні, а за тое, што ён, па версіі следства, меў намер іх здзейсніць. Усяго па гэтай справе праходзяць 11 чалавек — ім ставяць у віну здзяйсненне злачынстваў у групе асобаў.

Судовыя пасяджэнні некалькі разоў пераносіліся.

— Першы тыдзень, калі суд пачаўся, пасяджэнні ішлі тры дні, а на чацвёрты адзін з абвінавачаных затэмпературыў, таму пасяджэнне перанеслі на наступны панядзелак. Калі мы прыйшлі ў панядзелак, адзін з абвінавачаных, які быў на свабодзе, не з'явіўся, яго тэлефон быў недаступны, і пасяджэнне зноў адмянілі, — распавядае Святлана Касакоўская, з якой мы сустракаемся ля СІЗА №1.

Пазней стала вядома, што зніклы фігурант, 22-гадовы Давід Слашчаў, з'ехаў за мяжу і распавёў пра катаванні падчас следства.

Абвінавачаных вылічылі па чаце, хоць асабіста, гаворыць Святлана, яны паміж сабой не былі знаёмыя. Затрымлівалі ў два этапы: Арцёма Касакоўскага і яшчэ некалькі чалавек — 27 верасня, астатніх — 29-га.

Арцём працаваў у Лідзе на заводзе «Оптык» і жыў у інтэрнаце, а на выходныя прыязджаў дадому ў Беняконі, што ў 40 кіламетрах ад Ліды. У той час Святлана працавала ў Літве, але з сынам пастаянна была на сувязі.

— Я стала тэлефанаваць яму ў 3 гадзіны, але тэлефон быў недаступны. Адразу адчула, што нешта не тое. Малодшы сын сказаў, што Арцём раніцай некуды з'ехаў на машыне. Нідзе ў інтэрнэце яго не было. Я ўсю ноч не спала, не ведала, дзе шукаць сына. А палове на пятую раніцы зайшла ў Інстаграм і ўбачыла відэа МУС з «прызнаннем» затрыманага хлопца з Ліды. Я яго нават не пазнала — у яго на вочы была нацягнута кепка, а пад ёй — заклеены лоб, бо яго білі, — успамінае Святлана.

Прыкладна ў гэты ж час Арцём Касакоўскі знайшоўся ў спісах затрыманых у Жодзіна.

**«Не ўсім «палітычным» сваякі перадаюць перадачы, даводзіцца падтрымліваць і іх. Аднаму хлопцу я сама шукала адваката — ён прасядзеў без абаронцы 8 месяцаў. Цяпер я стала менш вазіць, а зімой кожны тыдзень толькі па 2 кілаграмы сала перадавала»**

### «Збіраўся адбіваць людзей ад АМАПа»

30 верасня Арцём ужо быў на Акрэсціна. Святлана, якая напярэдадні вярнулася ў Беларусь, з малодшым сынам адразу павезла яму перадачу, але ёй сказалі, што Арцёма ў іх няма.

— Я пасля гадзіны дня туды прыйшла і сышла толькі а сёмай. Стала на ганак і кажу: «Шукайце мне сына!». Дзяжурныя тры ці чатыры разы хадзілі з гэтымі спісамі, потым выклікалі нейкага начальніка ў цывільным, які сказаў мне прайсці ў двор. Калі мяне завялі, бразнулі жалезныя дзверы, і я падумала: ну ўсё, мама знайшла сына... Начальнік той некалькі разоў хадзіў шукаць — няма. Тэлефаную адвакату — той кажа, што ёсць. І калі я ўжо стала адыходзіць, заехаў нейкі бус. Аказваецца, у ім сына толькі прывезлі на Акрэсціна. З Жодзіна яго вывезлі напярэдадні вечарам, ноч ён правёў у Цэнтральным РУУС, пасля цэлы дзень вазілі па горадзе і шукалі яго машыну, на якой ён прыехаў у Мінск.

На відэа МУС паказалі, нібыта ў машыне Арцёма знайшлі кручаныя цвікі, балты, вострыя прадмет, каб пратыкаць колы ў машынах сілавікоў, сцвярджалі, што ў яго было зменнае адзенне на выпадак, калі зальюць вадой з вадамётаў. Святлана не ведае, ці сапраўды гэта было ў яго машыне, альбо міліцыянты знялі прадметы дзеля «карцінкі» і прымусілі хлопца прызнацца, што ён вазіў іх з сабой. На відэа Арцём кажа, што збіраўся адбіваць людзей ад АМАПа.

Жанчына не адмаўляе, што Арцём хадзіў на маршы пратэсту ў Лідзе і нават дапамагаў ратаваць людзей ад сілавікоў. У Жодзіна па фота ўстанавілі, што ён удзельнічаў у пратэстах, праўда, напісалі, што гэта было не ў Лідзе, а ў Мінску.

### «Я буду жыць у Беларусі і змагацца да канца»

Чатыры месяцы з Арцёмам Касакоўскім не праводзілі ніякіх дзеянняў. З Акрэсціна яго перавялі ў СІЗА на Валадарскага, потым — зноў у Жодзіна, а адтуль — назад на «Валадарку». Святлана Касакоўская не бачыла сына амаль 9 месяцаў, упершыню змагла сустрэцца з ім толькі ў судзе.

— Трымаецца ён добра, але часам бываюць такія лісты, па якіх бачна, што яму цяжка. Я прапаноўвала яму, калі гэта ўсё скончыцца, паехаць са мной у Літву і разам там працаваць. А ён кажа: «Не, маё месца тут, я буду жыць у Беларусі і змагацца да канца».

Святлана вельмі непакоілася за сына і ўвесь час запытвалася ў адваката: як ён выглядае? Ці яго не б'юць? Як да яго ставяцца? Але адвакат «суцяшаў»: «Не перажывайце, цяпер у турме сядзяць самыя годныя людзі».

— На Валадарскага ён сядзеў у камеры з блогерам Аляксандрам Кабанавым, з журналістамі. У кожным лісце ён мне піша: «Мама, галоўнае, ты за мяне не перажывай. Дзе б я яшчэ з такімі людзьмі пазнаёміўся?»

Пэўны час ліставанне з сынам было вельмі кепскае: жанчына пісала сыну і заказныя лісты і адпраўляла іх у канвертах 1-га класа — нічога не даходзіла. Тады Святлана сабрала чэкі ад лістоў і паехала з імі на прыём да кіраўніцтва СІЗА. Пасля размовы маці з турэмнай адміністрацыяй Арцём стаў атрымліваць лісты ад многіх людзей. Яму пішуць не толькі беларусы — лісты і паштоўкі ідуць з Амерыкі, Канады, Нарвегіі. Праўда, лісты ад маці яму так і не даходзяць, але яна можа падтрымліваць сувязь з сынам праз адваката. Арцём перадае маці, што кожны раз здзіўляецца, што людзі выдаткоўваюць свой час і грошы на яго.

— Мне людзі паведамляюць, што пішуць яму, і я перадала яму літаральна пайменны спіс. Сын сказаў, што цяпер будзе патрабаваць у цэнзара лісты ад гэтых людзей, — дзеліцца доследам маці палітвязня. — Таму я раю ўсім родным палітзняволеных: збірайце чэкі і ідзіце патрабуйце ў адміністрацыі, каб аддавалі лісты.

### «Ён з дзяцінства ў мяне герой»

Перад судом Святлана вельмі баялася, што яна можа расплакацца — і гэтым расстроіць сына. Але ўзяла сябе ў рукі і вырашыла, што плакаць будзе потым. Калі яна зайшла ў залу і ўбачыла Арцёма, стала яму махаць, усміхацца, дасылаць пацалункі — канвайры нават зрабілі ёй заўвагу, маўляў, нельга камунікаваць з падсуднымі жэстамі.

— А я кажу: «Я 9 месяцаў сына не бачыла, я што, не магу з ім павітацца? — узгадвае Святлана Касакоўская. — Калі я яго ўбачыла — думала, у мяне сэрца выскачыць. Я ніколі не бачыла яго з такой прычоскай, ён увесь белы — аж свеціцца. Ён быў стомлены, відаць, не спаў — потым прасіў праз адваката, каб я перадала яму снатворнае.

На пасяджэнні прыходзілі і сябры Арцёма, і калегі, і незнаёмая дзяўчына, якая ўвесь час піша яму лісты і дасылае пасылкі. Убачыўшы падтрымку, палітвязень павесялеў, стаў жартаваць у лістах і перадаў маці, што ў яго ўсё ў парадку, ён трымаецца.

— Ён вельмі змяніўся, але я нават не магу сказаць, што менавіта ў ім памянялася. Ён стаў зусім іншым, пасталеў. У яго нават позірк стаў іншым.

Пра сябе Святлана кажа, што за 24 гады, цягам якіх жыве ў Беларусі без сваякоў (сама яна родам з Казахстану), прывыкла браць сябе ў рукі і дзейнічаць.

— Я заўжды пішу сыну, што мы з ім моцныя і ўсё вытрымаем. У яго мой характар, ён з дзяцінства ў мяне герой. Казаў: «Мама, што ты будзеш са мной рабіць, калі я вырасту?». Але ён рос, і ў мяне ніколі не было з ім ніякіх праблем.

### Сваякі адвярнуліся, а незнаёмыя — падтрымалі

Святлана Касакоўская распавядае, што менавіта сыны пераканалі яе ісці галасаваць на выбарах, хаця жанчына не верыла, што раптам у Беларусі можа нешта змяніцца пасля 26 гадоў кіравання Лукашэнкі.

— Гэта першыя выбары ў маіх дзяцей, і я іх падтрымала. Але калі я ўключыла тэлевізар і там сказалі пра «80%», я яго выключыла і да гэтага часу не ўключаю.

І ўсё ж жанчына, якая столькі ўсяго перанесла і працягвае зацята змагацца за свайго сына, у пэўны момант не можа стрымаць слёз і прызнаецца: самым цяжкім ва ўсёй гэтай гісторыі для яе стала тое, што не падтрымалі, здавалася б, самыя блізкія людзі — сваякі.

— Спачатку было вельмі цяжка. Але мне сталі тэлефанаваць чужыя людзі — у мяне проста тэлефон разрываўся! Таму я адразу прыняла для сябе рашэнне: калі людзі ў такой сітуацыі засталіся ўбаку, значыць, я іх выкрэсліваю з жыцця.

Што да Арцёма, то ён прызнаўся маці: больш за ўсё баяўся таго, што яна яго не падтрымае.

Паводле арт. 293 Арцёму пагражае ад 3 да 8 гадоў калоніі, па арт. 218 — ад 7 да 12. Але маці спадзяецца на тое, што да калоніі справа не дойдзе.

— Сын не здаецца. І нам нельга здавацца, трэба ісці да канца, да перамогі! — упэўнена Святлана Касакоўская.

Вы можаце падтрымаць Арцёма Касакоўскага, напісаўшы яму на адрас: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Маці Арцёма таксама патрэбная дапамога: яна цяпер без працы, увесь свой час і сродкі выдаткоўвае на перадачы сыну і судовыя пасяджэнні.

— Не ўсім «палітычным» сваякі перадаюць перадачы, даводзіцца падтрымліваць і іх. Аднаму хлопцу я сама шукала адваката — ён прасядзеў без абаронцы 8 месяцаў. Адна перадача абыходзіцца рублёў у 150, плюс дарога. Гэта цяпер я стала менш вазіць, а зімой кожны тыдзень толькі па 2 кілаграмы сала перадавала, два вялікія боханы хлеба па кілаграму, і сыр, і гародніну, і гарбату, і да гарбаты, і на «абшчак», і трэба было апрануць сына на зіму... Таму, калі нехта можа нечым дапамагчы — я была б удзячная, — гаворыць жанчына.

Калі вы можаце дапамагчы, кантакты Святланы Касакоўскай ёсць у рэдакцыі.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

# «Наша першае спатканне ледзь не скончылася затрыманнем»

Тацццяна ГУСЕВА

**Каця Андрэева (Бахвалава) была затрыманая разам з калегай Дар'яй Чульцовай 15 лістапада пасля прамога эфіру з месца жорсткага разгону сілавікамі ўдзельнікаў акцыі памяці забітага Рамана Бандарэнкі. У інтэрв'ю «Салідарнасці» муж Каці — журналіст Ігар Ільяш успамінае, якім быў апошні дзень ягонай жонкі на волі.**

— Па нядзелях я звычайна працаваў дома, Каця вяла стрымы з маршаў. Як звычайна, я прыгатаваў нам сняданак. Каця рыхтавалася да працы, вырашала лагістычныя пытанні. Як заўсёды перад стрымам, яна крыху нервавалася. Каця выклікала таксі. Я пацалаваў яе ў пярэднім пакоі на развітанне.

На працягу дня мы былі на сувязі. За некалькі хвілін да арышту яна патэлефанавала мне і сказала, што сілавікі за дзвярыма і, хутчэй за ўсё, іх цяпер будуць затрымліваць.

Я да апошняга моманту не разумеў, як ідуць справы. Яшчэ падчас стрыму я спытаў: «Ці ёсць у вас шляхі адыходу?» Было відавочна, што дрон выявіў кватэру, дзе яны знаходзіліся, і іх паспрабуюць заблакаваць. Каця напісала, што шляхі адыходу ёсць.

Пазней высветлілася, што Каця і Даша не змянілі лакацыю — і магчымасці сысці пасля стрыму ўжо не было. Як высветлілася, гэта быў выбар Каці — заставацца ў той жа кватэры і выконваць свае прафесійныя абавязкі да канца.

***— Вяртаючыся ў думках да дня арышту Каці, вы думалі пасля пра тое, што маглі з'ехаць з краіны?***

— Так, такія думкі былі. Рашэнне заставацца і працаваць у 2020 годзе ў Беларусі было нашым супольным. Сваякі заклікалі нас з'ехаць.

За некалькі дзён да здарэння я пачаў усведамляць, што пратэсты пайшлі на спад, тэрор станавіўся ўсё больш жорсткім. Я прапанаваў паназіраць яшчэ пару тыдняў, як будуць развівацца падзеі.

Пратэст на вуліцы быў для нас пэўным абярэгам, страхоўкай ад таго, што прыйдуць за намі. Пакуль сілавікі займаюцца пратэстамі на вуліцы — ім не да нас. Як паказала практыка, усе крымінальныя справы супраць журналістаў пачаліся пасля таго, як пратэсты былі задушаныя.

Тэндэнцыю я правільна працочваў, але памыліўся ў тэрмінах. Я меркаваў, што трагедыя, якая здарылася з Раманам Бандарэнкам, прывядзе да таго, што пратэсты будуць трымацца на высокім узроўні, але памыліўся. Думаў, што ў нас ёсць пара тыдняў, а аказалася, што ў нас ёсць два дні...

Каця лічыць бессэнсоўным рэфлексаваць на гэтую тэму. Яна ні пра што не шкадуе.

***— Сем месяцаў прайшло пасля вашай апошняй сустрэчы на волі. Як вы цяпер падтрымліваеце адзін аднаго на адлегласці?***

— Пасля арышту Каці я часта пракручваў у галаве, як пройдзе наша сустрэча. Меркаваў, што яно будзе падобна на спатканне з жонкай у турме галоўнага героя рамана Салжаніцына «У крузе першым». Іх жыццё падзялілася, і яны не разумеюць да канца адзін аднаго, свет, у якім жывуць. Гэта вельмі цяжкі момант у кнізе.

На шчасце, нашы спатканні з Каццяй былі іншымі. Мы бачыліся двойчы: пасля суда першай інстанцыі — гадзіна на «Валадарцы», пасля апеляцыі — дзве гадзіны ў Жодзіне. Абодва спатканні бескантактавыя — не было магчымасці абняць, пацалаваць, узяць за руку. Гэта вельмі цяжка. Пры гэтым нашы сустрэчы праходзілі вельмі пазітыўна.

Мы не адчувалі ніякай няёмкасці. Было адчуванне, што не было гэтых месяцаў у турме. Вялікую частку часу мы смяяліся і жартавалі. Як гэта часта бывае ў шлюбе: калі адносіны гарманічныя, то двум людзям не абавязкова пастаянна абмяркоўваць сур'ёзныя тэмы, бо ў галоўным яны сыходзяцца да змаўчанні.

На турэмным спатканні мы не казалі пра глабальныя праблемы: напрыклад, ці будзеш ты мяне чакаць. Таму што выдатна разумелі выбар кожнага. У нас поўны давер адзін да аднаго.

Спатканні далі нам адчуць, што нітка, якая злучае нас, не пашкоджаная. Мы стварылі свой свет — непарушны, непрыступны, на яго ніяк не паўплывалі трагічныя падзеі.

Аграмадная падтрымка — лісты. Каця кажа, што для яе гэта велізарнае шчасце — атрымаць ліст. І я прыходжу ў захапленне, атрымліваючы ад яе лісты. Яшчэ дасылаю ёй некалькі тэлеграмаў на тыдзень.

У лістах марым, як будзем жыць, калі гэта ўсё скончыцца, і мы будзем шчаслівыя. Часам успамінаем прыемныя моманты з мінулага. Я падымаю нашу старую перапіску ў Фэйсбуку за 2016 год, калі пачынаўся наш раман, адпраўляю Каці фрагменты.

***— Перакладчыца Вольга Калацкая, якая сядзела з вашай жонкай у адной камеры, напісала, што ў Каці з мужам каханне, пра якое можна толькі марыць. Як вы пазнаёміліся?***

— Я ўбачыў у Фэйсбуку сэлфі Святланы Калінкінай з маладой журналісткай. Падумаў: вельмі прыгожая, пры выпадку трэба будзе пазнаёміцца. Літаральна тыдні праз два выпадак нарадзіўся.

Упершыню я ўбачыў Кацю на плошчы Свабоды, дзе праходзіла акцыя апазіцыі (гэта было ў пачатку кастрычніка 2015 года). Падышоў, пазнаёміўся. Думаў пасля працы запрасіць яе на каву. Але выпусціў яе з вачэй, яна сышла крыху раней — і мы не паспелі абмяняцца кантактамі.

Праз некалькі дзён на чарговай акцыі мы сустрэліся зноў,





і я ўжо не здзейсніў памылкі: трымаў яе ў полі зроку, каб пасля мітынгу запрасіць у кавярню.

Мы пілі каву, размаўлялі пра журналістыку. Каця была натхнёная працай. Яна рабіла першыя крокі ў прафесіі. Размова зайшла пра выбары, і яна кажа: «Сёння ж апошні дзень датэрміновага галасавання, я ніколі не працавала на выбарчых участках, цікава, як гэта выглядае збоку».

І мы пайшлі на ўчастак для галасавання, у гімназію. Стандартная рэакцыя: перапалоханыя сябры камісіі пры з'яўленні журналістаў. На нас выклікалі міліцыю. Прыехаў нарад — «касманаўты» ў шлемах з дубінкамі.

У нас праверылі дакументы і адпусцілі. Гэта быў такі перыяд, калі не было рэпрэсій, — і ўсё абышлося. Але сам факт, вядома, сімвалічны. Наша першае спатканне ледзь не скончылася затрыманнем.

Тады я ў яе закахаўся. Калі не з першага погляду, то з другога дакладна. Мяне захапілі энергія Каці, яе смеласць, нестандартнае мысленне. Журналістка адпрацавала дзень, адпачывала ў кавярні. І яна настолькі захопленая сваёй справай, што пасля працы вырашыла схадзіць на выбарчы ўчастак.

Нягледзячы на тое, што ў яе не было вопыту зносін з сілавікамі, яна вельмі смела сябе паводзіла, не спалохалася. Памятаю, мы выйшлі з гімназіі і смяяліся з сітуацыі, у якую трапілі.

...Спачатку з боку Каці не было ўзаемнасці. Я да яе заляцаўся, але яна мне прама сказала, што мы можам быць проста калегамі, сябрамі.

Псіхалогія ўладкаваная так: калі ты да чалавека не маеш узаемных пачуццяў, а табе будуць працягваць аказваць знакі ўвагі, хутчэй за ўсё, гэта выкліча адваротную рэакцыю. Разумеючы гэта, я на нейкі час адышоў убок. Мы перасякаліся цягам 3–4 месяцаў толькі па працы — абодва супрацоўнічалі з «Радыё Свабода».

Гэта была няпростая праца над сабой. Трэба было нават поглядам не паказваць, што ты толькі і думаеш пра яе, хочаш яе хутчэй убачыць.

У пачатку 2016 года я заняўся тэмай Данбаса. На той момант яна была топавай. Кожная публікацыя мела высокі рэйтынг, яе актыўна каментавалі ў сацсетках. Кацю таксама цікавіла гэтая тэматыка. Мы часцей сталі мець зносіны па працы: абменьваліся спасылкамі, дапамагалі адно аднаму інфармацыяй.

Аднойчы пасля працы Каця запрасіла мяне ў бар на Зыбіцкай. На сустрэчы я даў зразумець, што мае пачуцці і намеры застаюцца ранейшымі, і адразу акрэсліў: нашы адносіны могуць развівацца толькі ў такім кірунку або ніяк. З гэтага моманту пачаў развівацца наш раман.

***— Як вы рабілі Каці прапанову?***

— У чэрвені 2016-га мы пачалі сустракацца, а ў пачатку жніўня я прапанаваў Каці жыць разам. Яна спытала: «Які сэнс з'язджацца? Чаму б тады не ажаніцца?» Я ўзяў пяць секунд на развагі і сказаў: «Па-мойму, гэта выдатная ідэя! Будзь маёй жонкай». Каця ўзяла суткі на роздум і сказала: «так». Праз дзень мы падалі заяву ў ЗАГС.

Вяселле было сціплае, як мы і хацелі. Адзінае, пра што Каця потым шкадавала, у яе не было белай вясельнай сукенкі.

Мядовы месяц мы правялі ў Малазе, дзе Каця пражыла два гады. Яна хацела такім чынам закрыць гештальт: пачаць новы этап у жыцці, развітацца з мінулым.

***— Напярэдадні суда Каця з СІЗА напісала: «Што тычыцца мяне, то я буду шчаслівая незалежна ад прысуду, бо сумленне маё чыстае, а праўду казаць лёгка і прыемна».***

— Каця ведае, што праўда на яе баку, і гэта дае ёй сілы.

Мяне захапляе ў Каці яе здольнасць рабіць высновы са сваіх памылак, развівацца і выходзіць на новы ўзровень. Першы раз яе затрымалі ў сакавіку 2017 года на акцыі «Марш недармаедаў» у Воршы.

Справа была так. Спачатку затрымалі аператара Аляксандра Баразенку, з якім яна працавала ў пары. Каця паехала з ім і ў машыне працягвала весці Стрым. Дзіўна, як яны адразу яе не затрымалі.

З пункту гледжання бяспекі для журналіста ў Беларусі гэта было памылкай. Тое, што яна рабіла, падобна на стыль украінскіх журналістаў, якія нягледзячы ні на што гнуць сваю лінію. У Беларусі так не працуюць. Вопытныя калегі разумеюць, што любая лішняя праява актыўнасці — гэта падстаўніца пад затрыманне.

У зале суда Каця расплакалася, яна абсалютна не была гатовая да таго, што апынецца ў камеры, дзе правяла ноч. А праз два дні пасля суда Каця вяла стрымы ў Мінску. Яе зноў затрымалі 25 сакавіка на Дні Волі...

Яна так мужна і стойка паводзіла сябе з першых хвілін арышту шмат у чым дзякуючы таму, што працяглы час псіхалагічна рыхтавала сябе да падобных выклікаў. Каця выдатна разумела, чым пагражае праца ў гэтай краіне ва ўмовах дыктатуры.

Мы яшчэ летам 2020 года склалі для нашых блізкіх памяткі: куды тэлефанаваць, як сябе паводзіць, калі нас арыштуюць па крымінальным абвінавачанні. Каця кожны тыдзень працавала на маршах і разумела, што можа не вярнуцца.

***— Мяркуючы па лістах Каці з-за кратаў, яна наўрад ці кіне журналістыку. Як вы ўяўляеце ваша жыццё пасля вызвалення?***

— Калі яна выйдзе на свабоду, будзе праходзіць працэс аднаўлення і адпачынку. Спадзяюся, да гэтага часу журналістыка не будзе такой небяспечнай прафесіяй у Беларусі, і ў краіне адбудуцца пэўныя змены.

У планах пасля вызвалення паехаць у падарожжа ў Парыж, а потым на мора, на паўночнае ўзбярэжжа Францыі.

І, вядома, мы вельмі хочам дзяцей. Мы пастаянна абмяркоўваем гэтую тэму ў лістах, будуем планы. Гэтыя думкі падсілкоўваюць нас, надаюць сілы для таго, каб змагацца далей.

Дарэчы, задоўга да арышту я шмат разоў казаў Каці: наперадзе нас чакае доўгае, яркае, насычанае, шчаслівае жыццё, таму мы не павінны нічога баяцца. Што б цяпер ні здарылася — усё гэта калі-небудзь здасца дробяззю ў маштабах нашага жыцця і кахання. Каця з гэтай думкай заўсёды згаджалася.

**Фота з асабістага архіва Кацярыны Андрэевай і Ігара Ільяша**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Апошняе смяротнае пакаранне

Нямецкая прэса ўспомніла незвычайны юбілей. Роўна 40 гадоў таму, 26 чэрвеня 1981 года, на нямецкай тэрыторыі быў прыведзены ў выкананне апошні смяротны прысуд.

Гэта адбылося на тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР), дзе быў расстраляны 39-гадовы Вернер Тоснер — капітан Міністэрства дзяржаўнай бяспекі (МГБ) ГДР. Вернера пакаралі смерцю за шпіянаж на карысць ФРГ. Пры гэтым ён, як вынікае з матэрыялаў следства, дазваляў сабе такія рэчы, як «адмова ад сваёй класавай пазіцыі» і «сумневы адносна палітыкі партыі і ўрада».

Трэба прызнаць, што выпадак Вернера быў унікальным. У ГДР смяротнае пакаранне адносна цывільных асоб практычна не ўжывалася. Апошнім такім пакараным смерцю ў 1972 годзе быў забойца дзяцей. Аднак гэтае правіла не тычылася выпадкаў здрады сілавікоў. На пакаранні Вернера настойваў асабіста кіраўнік Штазі Эрых Мільке. Зрэшты, пазіцыю Мількe нават у ГДР не ўсе падзялялі. У 1987 годзе, яшчэ да аб'яднання Германій, смяротнае пакаранне ў ГДР адмянілі. Застаецца дадаць, што ў 1993 годзе Вернер быў рэабілітаваны.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. «Які футбол нам патрэбны? Ніякі!»

Расійская футбольная зборная з разгромным лікам прайграла на чэмпіянаце Еўропы і вылецела з турніру.

Гэта заканамерна выклікала ў расійскіх СМІ дэбаты: «Што рабіць?» Рэцэптаў шмат. Напрыклад, прапануецца выйсці з УЕФА і ўступіць у азіяцкую федэрацыю футбола, што, як кажуць аматары праекту, дасць магчымасць не толькі лёгка перамагаць, але і гуляць у вялікі футбол у Крыме (цяпер гэта забаронена інструкцыямі УЕФА).

Але далей за ўсіх пайшло выданне «Взгляд». На думку аднаго з яго калумністаў, захапленне футболам у Расіі стала нацыянальнай шкоднай звычкай, нароўні з курэннем і алкагалізмам. Таму трэба спыніцца развіваць футбол, а ў якасці альтэрнатывы прапагандаваць у масах іншыя віды спорту. Напрыклад, адрадзіць старую гульню — гарадкі», сапраўды вельмі папулярную ў савецкі час. «Чаму б не зрабіць гарадкі або лапту нашым нацыянальным спортам? Жывуць жа ЗША са сваімі бейсболам і амерыканскім футболам, і не ведаюць бедаў», — рэзюмуе аўтар артыкулу.

Як ні парадаксальна, многія расіяне ў каментарах падтрымліваюць такі падыход. Напэўна, надакучылі рэгулярныя правалы зборнай.

**Паводле расійскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Хто не плаціць, той не есць

Калі чытаеш навіны з Туркменістана, міжволі ўзнікае думка, што там праводзіцца нейкі сацыяльны эксперымент.

Гэтым разам чыноўнікі вырашылі арыгінальна развязаць праблему запазычанасцяў аплаты камунальных паслугаў, а дакладней — газу. У адным з рэгіёнаў жыхароў, якія маюць запазычанасці за газ, пазбавілі права набыцця прадуктаў у крамах. Праўда, гаворка толькі пра тыя прадукты, цэны на якія субсідуе дзяржава.

Даўжнікам, колькасць якіх ідзе на тысячы, не дадуць магчымасці набываць набор прадуктаў без даведкі пра адсутнасць запазычанасці за газ. Між тым, зрабіць гэта тэхнічна цяжка. Аплаціць газ можна толькі наяўнымі грашыма, якіх не хапае ў краіне, пагружанай апошнімі гадамі ў глыбокі эканамічны крызіс.

Таму, відаць, улады абвясцілі, што гатовыя на новыя меры барацьбы з даўжнікамі. У выпадку наяўнасці запазычанасцяў у туркменаў збіраюцца канфіскоўваць маёмасць.

**Паводле туркменскай прэсы**



### ЗША. Геніяльны план Трампа

Амерыканскае выданне Washington Post публікуе мемуары сваіх журналістаў, якія працавалі пры адміністрацыі Трампа.

Калі ім верыць, у лютым мінулага года, калі ўпершыню пачалі казаць пра пагрозу Covid-19, у папярэдняга прэзідэнта ЗША з'явіўся свой цікавы план барацьбы з эпідэміяй. Ён патрабаваў, каб амерыканцаў, якія прыязджаюць у Злучаныя Штаты з вірусам Covid-19, затрымлівалі на мяжы і адпраўлялі ў турму на базе Гуантанама, што на Кубе. «Мы імпартуем з Кітаю тавары. Але не збіраемся імпартаваць вірус», — аргументаваў гарант сваю прапанову.

Як піша Washington Post, у выніку дарадцы ўсё ж перакаалі прэзідэнта адмовіцца ад свайго плану, які, гледзячы на развіццё падзей, усё роўна наўрад ці дапамог бы спыніць інфекцыю. Дарэчы, наконт Гуантанама Трамп меў і іншыя ідэі. Як піша газета, ён таксама думаў наконт таго, каб адправіць у тую турму ўсіх нелегальных мігрантаў, якія намагаюцца прарвацца ў ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.veja.abril.com.br

**Пратэст у Сан-Паулу: сваякі памятаюць пра 434 чалавекі, што загінулі ці зніклі без вестак падчас ваеннага рэжыму**

# «Гістарычны вердыкт»

*Алег НОВІКАЎ*

**Бразільскі суд 22 чэрвеня ўпершыню ў гісторыі краіны асудзіў былога сілавіка за парушэнні правоў чалавека, якія былі здзейснены падчас вайсковай дыктатуры 1964–1985 гадоў.**

Як мінімум 434 чалавекі былі забітыя альбо гвалтоўна зніклі. Яшчэ тысячы незаконна затрыманыя альбо катаваныя ў турмах. 50 тысяч былі проста на нейкі час арыштаваныя. Нарэшце, 10 тысяч збеглі з краіны. Гэта чалавечы кошт дыктатуры, якая панавала ў Бразіліі з 1964 па 1985 гады.

Аднак, калі ў 1980-я пачалася асцярожная лібералізацыя, тэма адказнасці за згаданыя злачынствы спачатку амаль не гучала. Магчыма, справа ў тым, што яшчэ ў 1979 годзе быў прыняты Акт аб амністыі, паводле якога ініцыятары путчу і супрацоўнікі сілавых ведамстваў таго часу вызваляліся ад адказнасці.

Акрамя таго, пастаноўка пытання пра адказнасць за злачынствы дыктатуры падавалася бесперспектыўнай. Яна лагічна патрабавала выкліку ў бразільскі суд шэрагу амерыканскіх палітыкаў. Вайсковы пераварот і дыктатура былі санкцыянаваныя камандай тагачаснага амерыканскага прэзідэнта Ліндана Джонсана. Больш за тое, у справаздачы бразільскага парламента за 2014 год было адзначана, што Злучаныя Штаты «ў часы дыктатуры на працягу многіх гадоў вучылі бразільскіх ваенных метадам катаванняў».

Лічыцца, што Джонсан пайшоў на гэты крок, бо яго адміністрацыя асцерагаліся паўтарэння ў Бразіліі кубінскага сцэнару. Акрамя таго, на носе былі прэзідэнцкія выбары, і гаспадар Белага дому намагаўся закрыць раты ўсім крытыкам, якія вінавацілі яго за недастаткова рашучыя дзеянні ў тым жа В'етнаме.

Цікава, што адсутнасць у бразільцаў асаблівага жадання помсты за злачынствы часоў дыктатуры палітолагі звязваюць з асаблівасцямі менталітэту. Жыхары гэтай краіны занадта вясёлыя і геданістычныя, не любяць узгадваць нейкія драматычныя старонкі сваёй біяграфіі — у тым ліку распавядаць пра тыя эпізоды публічна.

Тым не менш, па ходзе ўмацавання інстытутаў бразільскай дэмакратыі нейкія зрухі ў гэтай галіне пачаліся. Дапамаглі працэсу аднаўлення справядлівасці міжнародныя інстанцыі. Пасля таго, як Міжамерыканскі суд па правах чалавека ў 2011-м асудзіў Акт аб амністыі 1979 года, у бразільскім парламенце была створаная так званая «камісія праўды». Яе чальцы заявілі пра намер дапамагчы нацыі сумленна разабрацца са сваім мінулым, а таксама ўшанаваць тых, хто змагаўся за дэмакратыю. Таксама на пасяджэннях камісіі ўпершыню пачалі гучаць прапановы пра кампенсацыі для ахвяраў палітычнага пераследу.

**Суддзя пастанавіў, што выкраданне людзей з'яўляецца злачынствам, якое не падпадае пад закон аб амністыі і павінна карацца. Карлас Альберта Аўгуста атрымаў амаль 3 гады пазбаўлення волі**

У выніку Акт аб амністыі перастаў тычыцца тых, хто быў датычны да гвалту. З часам працэс дайшоў і да першай канкрэтнай судовай справы. Яе фігурантам стаў былы паліцэйскі Карлас Альберта Аўгуста, за выкраданне Эдгара дэ Акіна Дуартэ.

Дуартэ, марскі афіцэр, выступіў супраць ваеннага перавароту 1964 года, і быў звольнены з флоту. Пры гэтым ён асабліва палітыкай не цікавіўся. Пасля звальнення працаваў фінансавым брокерам, пакуль нехта не настукаў куды трэба пра яго погляды. 13 чэрвеня 1971 года Дуартэ быў арыштаваны без пастановы суда і ўтрымліваўся ў турэмным цэнтры без кантактаў з роднымі. У апошні раз яго бачылі ў 1973 годзе. Яго цела так і не было знойдзена.

У выніку суддзя пастанавіў, што выкраданне людзей з'яўляецца злачынствам, якое не падпадае пад закон аб амністыі і павінна быць пакаранае. Карлас Альберта Аўгуста атрымаў 2 гады і 11 месяцаў пазбаўлення волі.

Грамадскасць па-рознаму ставіцца да рашэння Феміды. Ёсць расчараваныя. «Прысуд, меншы за тры гады пазбаўлення волі за такое жудаснае злачынства наўрад ці падаецца справядлівасцю. Хаця гэта важны крок, за якім павінны быць наступныя, каб пакласці канец беспакаранасці за сістэматычнае парушэнне правоў чалавека падчас дыктатуры», — піша адно з мясцовых выданняў. А вось арганізацыя Human Rights Watch, наадварот, лічыць вынікі працэсу «гістарычнымі».

Застаецца дадаць цікавую дэталь. Падчас судовых слуханняў шмат разоў гучала імя палкоўніка Карласа Альберта Брыльхантэ Устра, які непасрэдна кіраваў цэнтрам катаванняў, дзе знаходзіўся Дуартэ. Палкоўнік, які ўжо пайшоў з жыцця, з'яўляецца адным з куміраў цяперашняга правапапулісцкага бразільскага прэзідэнта Жаіра Балсанару. Апошні называў Устра «бразільскім героем», і ўвогуле лічыць, што ў часы дыктатуры было шмат пазітыву.

Няма сумневу, што працэсы, падобныя да справы Дуартэ, таксама паўплываюць на сучасную палітычную сітуацыю. І, дарэчы, гэта толькі пачатак. За апошні час у Бразіліі прад'явілі абвінавачанні па 50 справах аб злачынствах дыктатуры. Варта таксама сказаць, што шукаць падазраваных пракурорам не вельмі цяжка. Па нейкай прычыне падчас працы над рэдакцыяй Акту аб амністыі ў 1979 годзе яго аўтары пералічылі канкрэтны спіс асобаў, якія, як яны спадзяваліся, ніколі не будуць адказваць за катаванні і забойствы.

# «Вярніце Зазу!»

Алег НОВІКАЎ


Фота www.kavkaz-uzel.eu

**Грузію ахапілі акцыі, удзельнікі якіх патрабуюць вызваліць 33-гадовага Заза Гахеладзэ, які знаходзіцца ў турме ў Паўднёвай Асеціі.**

Імя Зазу Гахеладзэ з'явілася ў інфармацыйных стужках 11 ліпеня мінулага года. У гэты дзень стала вядома, што на мяжы Грузіі і Паўднёвай Асеціі, якую Грузія не прызнае, затрыманы грузінскі грамадзянін. Пры гэтым, як гаварылася ў афіцыйным паведамленні, пры затрыманні грузін аказваў супраціў расійскім жаўнерам, якія кантралююць паўднёваасецінскі рэгіён, і нават страляў з паляўнічай стрэльбы. Агнём у адказ ён быў паранены ў галенастоп і пасля затрыманы. Гэтым чалавекам і аказаўся Заза Гахеладзэ.

Пазней Гахеладзэ было прад'яўлена абвінавачанне па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса Расійскай Федэрацыі. Адзін з артыкулаў кваліфікуе яго паводзіны як замах на жыццё вайскоўца і прадугледжвае ад 12 да 20 гадоў пазбаўлення волі. Акрамя таго, Гахеладзэ быў абвінавачаны паводле артыкулу, які прадугледжвае «незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы». У лютым 2021 года суд асудзіў Заза на 12,5 года па згаданых артыкулах.

Натуральна, у Тбілісі прысуд асудзілі. МЗС Грузіі выказаў «глыбокае абурэнне» ў сувязі з «правакацыйным рашэннем расійскага акупацыйнага рэжыму». Сваю пазіцыю грузіны аргументуюць таксама спасылкай на тое, што Паўднёвая Асецыя — гэта частка Грузіі. Такім чынам, Гахеладзэ дзяржаўную мяжу парушыць не мог з прычыны яе адсутнасці. Калі той нешта і перайшоў, то выключна скрыжаванне адміністрацыйнай мяжы Цхінвальскага рэгіёна, што злачынствам, паводле грузінскіх законаў, натуральна, не з'яўляецца.

Па словах родных, Заза разам з аднавяскоўцам пайшоў збіраць грыбы, што надавала справе рысы сумнай фантасмагорыі. У любым выпадку, родныя і блізкія Гахеладзэ не задаволіліся абяцаннямі чыноўнікаў «прыняць меры» па яго вызваленні. Яны пачалі акцыі пад лозунгам «Вярніце Зазу!» і патрабавалі ад уладаў Паўднёвай Асеціі яго вызвалення, а ад уладаў Грузіі — больш актыўных дзеянняў у гэтым кірунку. Паступова акцыі пашырыліся на ўсю Грузію, а пытанне Гахеладзэ стала часткай грузінскай палітычнай павесткі. Сітуацыя з ім нават разглядалася на пасяджэнні Рады бяспекі Грузіі.

Сапраўды, цяжка заставацца абыякавым, калі маці Гахеладзэ кажа пра намер здзейсніць самаспаленне, а бацька ў надзеі ўбачыць Зазу хоць бы ў турме гатовы наўмысна перайсці мяжу, каб быць арыштаваным.

Акрамя таго, гэты выпадак шмат каму нагадаў драму іншага грузіна — Арчыла Татунашвілі. У 2018-м ён таксама быў затрыманы паўднёваасецінскімі сілавікамі. Калі верыць пракуратуры Грузіі, пасля арышту Арчыла катавалі ў Цхінвальскім ізалятары, і ў выніку атрыманых траўмаў ён памёр.

Як і трэба было чакаць, гарачую тэму вызвалення Зазу паспрабавалі эксплуатаваць мясцовыя палітыкі. Апазіцыйныя партыі актыўна мусіруюць наступны тэзіс: Тбілісі бяздзейнічае, таму што прытрымліваецца палітыкі «не раздражняць Расію». «Урад Грузіі — рабы Пуціна», — было напісана на адным з банераў пікетчыкаў. Як меркаванне таго, што Гахеладзэ будзе сядзець, пакуль у краіне не зменіцца ўлада.

Але ці з'яўляецца ў Тбілісі эфектыўныя рычагі ціску на Расію пасля ракіровак унутры грузінскай адміністрацыі, цяжка сказаць. Дыпламатычныя кантакты паміж РФ і Грузіяй былі разарваныя пасля 2008 года. Таму грузіны могуць ціснуць на Маскву па пытанні Гахеладзэ выключна праз надзвычай бюракратычныя міжнародныя інстанцыі. Тым не менш, чыноўнікі намагаюцца выглядаць аптымістамі і абяцаюць родным Гахеладзэ падключыць для вырашэння справы ўсе свае рэсурсы.

Эксперты, якія намагаюцца больш цвяроза ацэньваць сітуацыю, кажуць, што на самай справе ўся надзея — толькі на царкву. Каталікос — патрыярх Грузіі Ілля Другі накіраваў ліст кіраўніку Рускай праваслаўнай царквы патрыярху Кірылу з просьбай садзейнічаць у вызваленні Гахеладзэ. Гэта просьба сапраўды можа быць пачутая. У тым ліку таму, што для Расіі важна заблакаваць працэс вызнання нацыянальнымі праваслаўнымі цэнтрамі Украінскай аўтакефаліі.

Падаецца, на царкоўныя кантакты спадзяюцца і пратэстоўцы. Днямі, пасля таго, як у справу ўмяшалася царква, актывісты часова адмовіліся ад радыкальных планаў — блакады рэспубліканскай аўтамагістралі і масавага выхаду на «лінію акупацыі». Зрэшты, ставіць кропку ў гэтай гісторыі яшчэ занадта рана. У тым ліку таму, што акрамя Гахеладзэ ў Цхіванвалі ўтрымліваюцца яшчэ чатыры грамадзяніна Грузіі.

**Дыпламатычныя кантакты паміж РФ і Грузіяй былі разарваныя пасля 2008 года. Таму грузіны могуць ціснуць на Маскву па пытанні Гахеладзэ выключна праз міжнародныя інстанцыі**



Фота www.ekhokavkaza.com

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Міхал Вось



Польшча хутка пойдзе па слядах Венгрыі і забароніць «прапаганду гомасексуалізму»? Пра гэта заявіў у праграме «Факты за фактамі» намеснік міністра юстыцыі Міхал Вось.

Яшчэ не сціхла абурэнне праваабаронцаў пасля таго, як Венгрыя заканадаўча забараніла «прапаганду гомасексуалізму». ЛГБТ-арганізацыі асцерагаюцца, што гэта будзе азначаць забарону інфармаваць моладзь пра існаванне іншых арыентацый, акрамя гетэрасексуальных, або выразаць з дзённага эфірнага часу фільмы і рэкламу з ЛГБТ-матывамі.

Нагадаем, што 15 чэрвеня Венгрыя па ініцыятыве прэм'ера Віктара Орбана прыняла жорсткі закон, які забараняе «прасоўванне гомасексуалізму». Так, асобам да 18 гадоў забараняецца дэманстраваць матэрыялы, якія заахвочваюць змену полу ці гомасексуальнасць. Дакументам таксама вызначаны спіс арганізацый, якія могуць праводзіць урокі палавой асветы. Нававядзенне чакана справакавала хвалю незадаволенасці сярод еўрапейскай супольнасці, актывістаў і некаторых венгерскіх апазіцыйных партый, якія сцвярджаюць, што такія перамены парушаюць правы чалавека. Афіцыйны Брусель абяцае санкцыі.

Няма сумневаў, што такая ж перспектыва чакае Польшчу, калі будзе прыняты закон, аналагічны венгерскаму. Аднак наўрад ці гэта спыніць палітыкаў. Усе прызнаюць, што дэманстрацыйная гамафобія надае Орбану папулярнасці. Магчыма, кіруючая ў Польшчы партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) вырашыла скарыстацца напрацоўкамі Будапешта. Тым больш, што апошнім часам справы ў PiS ідуць далёка не лепшым чынам. 25 чэрвеня тры дэпутаты сышлі з фракцыі партыі ў Сейме, якая ў выніку згубіла парламенцкую большасць.

### Стэфан Лёвен



Экс-прэм'ер-міністр Швецыі, лідар сацыял-дэмакратаў, стаў першым прэм'ерам, якому парламент абвясціў вотум недаверу, вынікам чаго стала адстаўка кабінета. Нагодай для бунту дэпутатаў была прапанова Лёвена рэфармаваць жыллёвую сферу ў Швецыі, у прыватнасці ўвесці рынкавыя цэны на арэнду нерухомасці ў новых дамах.

У Швецыі даўно востра стаіць пытанне арэнды жылля. Без асаблівых праблем жыллё можна зняць толькі ўтрая даражэй на ўмовах субарэнды: па так званым «кантракце другой рукі». А вось «кантракт першай рукі», які прадугледжвае кантраляваныя дзяржавай кошты, падпісаць нялёгка. Тэрміны чакання ў муніцыпальнай жыллёвай чарзе могуць дасягаць 15–20 гадоў. Урад, з падтрымкай правых партый, вырашыў увесці рынкавыя цэны на арэнду нерухомасці ў новых дамах. Аднак, пагнаўшыся за новымі саюзнікамі, Лёвен страціў старога саюзніка ў выглядзе Левай партыі, якая забяспечвала яму большасць. У выніку левыя пакрыўдзіліся і заявілі пра намер адправіць урад у адстаўку. З дапамогай іншых апазіцыйных партый, як бачым, яны дамагліся свайго.

Зрэшты, пакуль гісторыя не скончылася. Лёвен не хоча праводзіць новыя выбары, і ўжо папрасіў спікера парламента даць яму дазвол на тое, каб паспрабаваць сфарміраваць новы ўрад.

### Ігар Лебедзеў



Віцэ-спікер Дзярждумы ад Ліберальна-Дэмакратычнай Партыі Расіі (ЛДПР), сын Уладзіміра Жырыноўскага (носіць прозвішча маці) заявіў, што прыпыняе ўдзел у палітычным жыцці і не пойдзе на выбары ў Думу.

Сам палітык тлумачыць свой крок стомленасцю і жаданнем узяць паўзу. Між тым, эксперты праецыруюць рашэнне Лебедзева на будучыню ЛДПР. Лебедзеў быў другім чалавекам у партыі, і, вельмі верагодна, менавіта яго 75-гадовы Уладзімір Жырыноўскі бачыў у ролі пераемніка. Выхад сына Жырыноўскага з публічнай палітыкі кажа, што партыю ён ужо не атрымае. Гэта дазваляе меркаваць, што Уладзімір Жырыноўскі, хутчэй за ўсё, ужо дамовіўся з некім аб продажы партыйнай структуры. Так што, фактычна, гэтая выбарчая кампанія для ЛДПР і самога Жырыноўскага будзе апошняй, пасля чаго ЛДПР у яе першапачатковым выглядзе спыніць існаванне.

Аднак не выключана, што яна ўвогуле накіруецца на сметнік гісторыі, паколькі партыя за ўвесь час трымалася выключна на харызме яе лідара. Адсутнасць такой яскравай персоны дазваляе прагназаваць хуткі сыход ліберал-дэмакратаў з палітычнай сцэны.

# Трагедыя сцяга з «Пагоняй»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**25 верасня 1936 года ў Пінску міністр абароны Польшчы брыгадны генерал Тадэвуш Каспшыцкі ўручыў камандаванню 84-га палка палескіх стралкоў новы сцяг. Гэты сцяг з «Пагоняй» праз 3 гады стаў трафеем бальшавікоў.**

## У вайне з бальшавікамі

84-ы полк палескіх стралкоў бярэ свой пачатак у 1920 годзе, калі ў Остраве Мазавецкім быў сфарміраваны 101-ы рэзервовы пяхотны полк, які летам таго ж года заняў баявыя пазіцыі на польска-бальшавіцкім фронце на рацэ Случ. Аднак пасля ўдару Першай коннай арміі чырвоных польскія жаўнеры вымушаны былі хутка адступіць. Пазней часткі палка прынялі ўдзел у абароне Ломжы і Пултуска. Пасля «цуда на Віслe» пехацінцы 101-га ўдзельнічалі ў бітве за Гродна, а напрыканцы вайны жаўнеры неслі службу на польска-літоўскай дэмаркацыйнай памежнай лініі.

За ўдзел у вайне з бальшавікамі 32 жаўнеры палка былі ўзнагароджаныя Крыжам «Віртуці Мілітары» пятай ступені, 122 жаўнеры атрымалі «Крыж Мужных». У мірны час назва гэтай вайсковай адзінкі змянялася некалькі разоў, пакуль у 1934 годзе загадам міністра вайсковых спраў яна не стала называцца 84-м палком палескіх стралкоў.

## Палкавая святыня

Як адзначалася ў загадзе камандзіра палка дыпламаванага палкоўніка Станіслава Штарэйкі, «выраб палкавога сцяга фінансавалі прадстаўнікі ўсіх груп насельніцтва, якія пражывалі на Палессі, незалежна ад іх веравызнання». Сам штандар быў зроблены з белага шоўку: палотнішча памерам 100 на 100 см было абабіта залатымі махрамі з трох бакоў. Правы бок (з гербам Польшчы) быў выкананы ў адпаведнасці са Статутам ад 1927 года. На левым баку, па кутах, былі размешчаны выявы герба Пінска, герба Ломжы, герб «Пагоня» і малюнак заступніцы Палесся Божай Маці Кодэнскай. У праменях крыжа былі надпісы: Пултуск, Гродна, Звягель, Ломжа, якія сімвалізавалі баявую гісторыю палка. Пасярэдзіне ў лаўровым вянку змяшчаўся надпіс «Гонар і Радзіма».






Напярэдадні ўручэння сцяга на вуліцах Пінска быў арганізаваны парад. Стралковая рота пад камандаваннем Станіслава Матусяка ў суправаджэнні аркестра прамаршыравала па вуліцах Альбрэхтоўскай, Агінскага, Касцюшкі, Жвіркі і Вігуры, Надбярэжнай да пінскага старост342. Камандаваў урачыстасцю маёр Людвік Улазенка.

Пасля выступлення палкоўніка Станіслава Штарэйкі, быў агучаны спіс палеглых у польска-бальшавіцкай вайне жаўнераў палка. Пазней «палешукі» развіталіся са старым сцягам. Старшы сяржант Вацлаў Вацінскі ўспамінаў, што падчас урачыстай цырымоніі капелан палка ксёндз Генрых Антановіч «адзначыў гераізм жаўнераў і афіцэраў палка ў абароне Айчыны».

Новы сцяг з рук міністра вайсковых спраў, дывізійнага генерала Тадэвуша Каспшыцкага атрымаў кавалер Крыжа «Віртуці Мілітары» харунжы Пётр Турэк. Падчас урачыстага мерапрыемства пінскі староста падарыў камандзіру палка памятны фотаальбом, а таксама зачытаў рашэнне аб перайменаванні вуліцы Альбрэхтоўскай у вуліцу імя 84-га палка палескіх стралкоў. Акрамя гэтага, палку былі перададзены два буйнакаліберных кулямёты.

## На новым месцы дыслакацыі

Да пачатку ўтоенай мабілізацыі ў сакавіку 1939 года сцяг знаходзіўся ў спецыяльнай шкляной вітрыне ў кабінеце камандзіра палка. Падчас мабілізацыйных мерапрыемстваў ганаровая варта выносіла сцяг з «Пагоняй» для прысягі навабранцаў, а затым разам з палком штандар адпраўіўся да месца новай дыслакацыі, на поўдзень Польшчы. «Наш транспарт з Пінска праз Брэст, Лукаў, Радам прыехаў на станцыю Семкавічы. Адразу пачалася выгрузка нашых частак, якія хутка накіраваліся ў Хабеліцы. Камандаванне палка заняло асобны будынак. Палкавы сцяг знаходзіўся ў чахле і быў размешчаны ў мясцовай школе. Ён выдаваўся жаўнерам толькі на вялікія святы (напрыклад, Божага Цела). Для яго атрымання ў штаб прыбывала сцяжная група», — пісаў у сваіх успамінах узгаданы раней Вацлаў Вацінскі.

З моманту пачатку баявых дзеянняў у верасні 1939-га палкавая святыня знаходзілася пад апекай ад'ютантаў: капітана Яраслава Добрскага і падпаручніка рэзерву Яна Казлоўскага.



Жаўнеры 84-га палка палескіх стралкоў, 1934 год



Асвячэнне палкавога сцяга 84-палка ў Пінску




Палкавы знак 84-га палка палескіх стралкоў з Пінску

Падчас бітвы на Варце з першага батальёну палка быў выдзелены ўзвод для аховы сцяга. Пазней штандар знаходзіўся ў абозе гаспадарчай роты, і за яго адказвалі капітан Францішак Фільзэк і паручнік Рышард Обер-Піхлер.

## Вайна

Падчас Вераснёўскай кампаніі 84-ты полк прымаў удзел у баявых дзеяннях 30-й палескай дывізіі, якая ўваходзіла ў склад Арміі «Лодзь» і змагалася пад Трыбунальскім, Дзялошынам, Браброўнікамі. 10 верасня 1939 года палешукі вымушаныя былі адступіць — спачатку ў кірунку Варшавы, а пазней — да Модліна, дзе часткі Войска Польскага з Заходняй Беларусі, заняўшы ўчастак абароны «Крэпасць», змагаліся да 29 верасня. У сваю чаргу, чацвёрты батальён 84-га палка, у складзе Валынскай брыгады кавалерыі, 1 верасня 1939 года змагаўся ў кровапралітнай бітве пад Мокрай, падчас якой польскім жаўнерам удалося знішчыць 100 нямецкіх танкаў і бранявікоў. Дзеянні польскіх войскаў на некалькі дзён затрымалі наступленне 4-й танкавай дывізіі вермахта.

## Вяртанне дадому

10 верасня 1939 года падпаручнік Мажэйка разам з некалькімі салдатамі палка прывезлі сцяг у Пінск. У будынку штаба знаходзіўся дзяжурны афіцэр, паручнік Казімір Сасноўскі, якому і была перададзена палкавая святыня з выявай «Пагоні». У гэты час у горадзе на Піне таксама ішло фарміраванне польскіх вайсковых падраздзяленняў са складу надыходзячых з фронту разбітых частак, а таксама маракоў Пінскай рачной флатыліі ВМФ Другой Рэчы Паспалітай.

17 верасня 1939 года пачаўся паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Польскія часткі, якія знаходзіліся ў Пінску, пакінулі горад. Сцяг палескага палка, як і штабную дакументацыю, жаўнеры Войска Польскага забралі з сабой.

*«Я павінен быў выконваць абавязкі камандзіра першай роты. Рэзервовы батальён 84-га палка палескіх стралкоў налічваў 350 жаўнераў. Усе былі ўзброеныя ў карабіны, ручныя кулямёты, меліся таксама і мінамёты. Камандзірам батальёна быў прызначаны паручнік Шымчак. Пазней генерал Францішак Клеберг здзейсніў агляд батальёну і камандзірам падраздзялення прызначыў невядомага капітана, які меў досвед удзелу ў Першай сусветнай вайне. Пад яго камандаваннем батальён пакінуў Пінск і цягніком паехаў у Янаў Палескі, а адтуль на Любешаў, дзе хутка спалучыўся з маршавай калонай маракоў пінскай флатыліі»,* — пісаў пасля вайны ва ўспамінах паручнік рэзерву Анджэй Сіўка.

29 верасня 1939 года польскім часткам (у тым ліку і жаўнерам з Пінску) прыйшлося весці баі супраць падраздзяленняў Чырвонай Арміі ў раёне Шацка. 1 кастрычніка 1939 года палешукі ў бітве пад Вытычна сышліся з часткамі 253-га стралковага палка 45-й дывізіі Чырвонай Арміі. Пры гэтым камандаваў батальёнам Казімір Сасноўскі. Паранены афіцэр быў схоплены жаўнерамі Чырвонай Арміі і накіраваны ў лагер у Старабельску, а пазней — расстраляны НКУС у Харкаве ў 1940 годзе. Сцяг 84-га пяхотнага палка палескіх стралкоў стаў бальшавіцкім трафеем.

## У СССР і Расіі

Увесну 1940 года ў адной з савецкіх газет была апублікавана фатаграфія чырвонаармейца, які трымаў у руках той самы сцяг з Пінска. Пад здымкам быў подпіс: «Сцяг 84-га польскага стралковага палка, захоплены байцамі Чырвонай Арміі». Таксама паведамлялася, што трафейны сцяг быў перададзены ў Музей Чырвонай Арміі ў Маскве. А да гэтага штандар пабываў на выставе савецкіх трафеяў Вераснёўскай кампаніі 1939 года, арганізаванай у Кіеве. У Маскве сцяг 84-га палка палескіх стралкоў знаходзіўся да 1992 года. Падчас візіту першага прэзідэнта незалежнай Польшчы Леха Валенсы ў Маскву ў пачатку 1990-х гадоў, расійскі бок перадаў яму некалькі рарытэтаў, у тым ліку і шматпакутны сцяг з «Пагоняй». Сёння штандар палескіх стралкоў знаходзіцца ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

...За гераізм падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года 84-ты полк палескіх стралкоў у 1966 годзе быў узнагароджаны Ордэнам «Віртуці Мілітары» пятай ступені.



Выстава польскай трафейнай вайсковай тэхнікі ў Кіеве, 1940 год. Тут быў выстаўлены і сцяг 84-га палка палескіх стралкоў

# Еўрасаюз забаранілі? Тады Батумі — родны дом

Сяргей КАЙКО

**Перліна ля мора — гэта не толькі пра Адэсу, дзе ўецца вуліца Дзерыбасаўская і заўсёды добрае надвор'е. Гэта і пра Батумі таксама — дзе наўсцяж чыстае неба, а набярэжная шыкоўная, амаль як на Капакабане. У Аджары ёсць усё — сіняе мора, белы параход, празрыстая, як сляза, чача, барвовае, як кроў, віно... І цудоўныя людзі, гатовыя запрасіць у госці і начаставаць на тыдзень наперад. Дзе ж ты, мая Суліко?..**

Але сёлета ў Батумі будзе яшчэ і беларускі футбол. Так ужо сталася праз закрыццё паветранай прасторы над Беларуссю, пра што мы згадвалі тыдзень таму, калі анансавалі еўракубкі.

Навін з таго часу адчувальна паболела.



**«Батумі-Арэна»: стадыён з відам на мора**

Фота www.stadiumdb.com

## За БАТЭ — «Дынама»

Барысаўскі БАТЭ, хутчэй за ўсё, сустрэнецца з батумскім «Дынама» ў другім кваліфікацыйным раўндзе Лігі канферэнцый. Так распарадзілася жэрабя, і тут стасункі мусяць адбыцца паводле раскладу. 22 ліпеня барысаўчане злётаюць у цёплую Грузію, памочаць ногі ў Чорным моры і паспрабуюць гэтымі нагамі забіць пару галоў мясцовым футбалістам.

А праз тыдзень, 29-га, ужо дынамаўцы наведаюць Беларусь, заедуць з гастролямі ў адказ на «Барысаў-Арэну» — і хто там па суме дзвюх гульняў возьме верх, тое навуцы пакуль не вядома.

Але вядома іншае. БАТЭ не стане адзінай беларускай камандай, якая сёлета завітае ў краіну хванчкары, хачапуры і Вахтанга Кікабідзэ. Туды ж кіруецца яшчэ і брэсцкае «Дынама» — і гэта ўжо афіцыйная інфармацыя.

Падрабязнасці такія. Нейкі час у Брэсце яшчэ спадзяваліся, што супернік — чэшская «Вікторыя» з Пльзеня — пагодзіцца гуляць на берагах Буга, і нават прапанавалі яму адпаведную лагістыку. Невядома, што за сусанінскія шляхі там былі пазначаныя і якім таемным чынам меркавалася абмінуць паветранае эмбарга, але гэта ўжо і не важна. Бо ідэя сталася марнай, і ў выніку напрыканцы мінулага тыдня сваё важкае слова сказаў УЕФА. У Ньёне вынеслі чаканы вердыкт: гуляць строга на нейтральным полі.

Ну, калі так, то «запасны аэрадром» «Дынама» пачало шукаць побач — у суседняй Польшчы. Справа насамрэч няхітрая: «бяла-чырвоная» краіна, у адрозненне ад нашай квітнеючай, згінае так выкрутліва, што годныя стадыёны (разам з аэрапортамі, што важна) там чамусьці ёсць амаль ва ўсіх больш-менш буйных гарадах. І таму ж «Дынама» не варта было б нават ехаць у гаманлівую Варшаву. Прыдаўся б той жа Люблін, да якога 160 кіламетраў і дзе ёсць камфартабельны, добраўпарадкаваны 15-тысячнік з усімі патрэбнымі «наваротамі».

А не хочаш Люблін — калі ласка ў Беласток. Назіральныя беларусы добра ведаюць: там маюцца не толькі пастаянныя кірмашы і іншыя гандлёвыя аазісы, дзе ў дружалюбных паноў зручна рабіць зэпічныя «закупы». Да вашых паслуг таксама — сучасны стадыён «Мейскі», каб мы так жылі, як яны там гуляюць.

Мусіць, сярод гэтага багацця выбару нетаропка б і поркаліся

> **Прагнозы на еўракубкавую эпапею для беларускіх клубаў збольшага несуцяшальныя. Кожны раз шукаць стадыён для хатніх матчаў і прапрацоўваць лагістыку — так сабе асалода**

ў Брэсце, калі з Мінска нечакана прыляцеў непрашыбальны кіраўнічы «бан». Дасведчаныя людзі кажуць, што айчыннае Мінспорта наўпрост забараніла беларускім камандам абіраць у якасці нейтральнага поля арэны... з Еўрасаюза. Чаму? Здагадайцеся з трох разоў.

Вось так, уласна, на гарызонце і ўзнік Батумі, які ў вачах брэстаўчан пераважыў іншыя, больш блізкія, варыянты — у той жа Польшчы ды Украіне. Бо і візаў у Грузію не трэба, і чартарны рэйс шматпакутнай «Белавія» можна зладзіць... А што ўсё гэта моцна б'е па кішэні, то што ж — як кажуць, па законах рэвалюцыйнага часу, дый нічога іншага не заставалася.

У Батумі з «Вікторыяй», такім чынам, брэсцкае «Дынама» згуляе 29 ліпеня — праз тыдзень пасля выязной гульні ў Чэхіі. Матч пройдзе без гледачоў (гэта таксама рашэнне УЕФА), дый на чорта грузінскім заўзятарам глядзець на чужынцаў. А вось прамая тэлетрансляцыя на Беларусь з Грузіі не пашкодзіла б. Зрэшты, ці будзе яна — пытанне пакуль адкрытае.

## Стадыён-цукерка

Варыянт з Батумі, дарэчы, прывабны не толькі з гледзішча сёлетняй мудрагелістай лагістыкі. Ён прыўкрасны яшчэ і месцам, дзе прыйдзецца прасаваць траву-мураву гульцам БАТЭ і брэсцкага «Дынама». Цудоўным спартыўным збудаваннем, аналагаў якому ў Беларусі, зноў жа, знайсці цяжка.

Знаёмцеся, «Батумі-Арэна» — навенькі, амаль лялечны, стадыён непадалёк ад мора (там хвілін дзесяць нетаропкай хады), так бы мовіць, дзецішча грузінскіх футбольных дойлідаў на чатыры зоркі паводле высокіх стандартаў УЕФА. Гэта значыць, што тут можна праводзіць якія заўгодна міжнародныя матчы, акрамя самых-самых статусных (для самых-самых патрэбныя ўмяшчальнасць не менш за 35 тысяч гледачоў і, адпаведна, пяць зорак).

«Батумі-Арэна» здольная прыняць у адзін вечар да 20 тысяч заўзятараў, і для 170-тысячнай сталіцы Аджарыі гэтага больш чым дастаткова. Стадыён узвялі на месцы старога «Цэнтральнага», які памятаў часы яшчэ савецкага футбола. За старарэжымную даўніну грузіны вырашылі не трымацца мёртвай хваткай. Наадварот: зруйнавалі яе ўшчэнт, а на нанова зробленай будаўнічай пляцоўцы хуценька выкапалі катлаван і змайстравалі фундамент.

Будаўніцтва заняло два гады, а цырымонія адкрыцця «Батумі-Арэны» адбылася ў верасні мінулага года. Удзельнікі і відавочцы ацанілі — і прыгожы знешні выгляд, і самадастатковае ўнутранае аздабленне, і якаснае поле з натуральнай травой. Што адметна: аб'ект мэтанакіравана зрабілі выключна футбольным — то-бок без бегавых лёгкаатлетычных дарожак. І гэта дадало выгодаў гледачам — гульня ім тут бачная як на далоні.

Дапытлівы чытач, канешне, звернецца да аўтара з дакорам: як гэта ў Беларусі няма аналагаў? Бо і стадыён «Дынама» ў Мінску мае тыя ж чатыры зоркі ад УЕФА, і «Барысаў-Арэна». Усё так, калі не чапаць суадносін цаны і якасці. Усё-ткі ў Барысаве трыбуны ўмяшчаюць істотна меней — 13 тысяч чалавек, а агулам увесь праект, адкрыты ў 2014 годзе ў Печах, каштаваў 58 мільёнаў долараў. Тады як 20-тысячнік у Батумі — толькі 45.

Што да мінскага стадыёна «Дынама», то тут розніца яшчэ больш уражвае. Рэканструкцыя галоўнага спартыўнага збудавання Беларусі пацягнула на ашаламляльныя 200 мільёнаў долараў, і пры гэтым яе вынікі, мякка кажучы, спадабаліся не ўсім. Бо і трыбуны адчувальна звузіліся — да 22 тысяч месцаў, і аб'екту надалі лёгкаатлетычны профіль — з шырачэзнымі дарожкамі... Ну і, вядома, асобныя «архітэктурныя рашэнні» выклікалі гамерычную рэакцыю ў сецыве: як той вадасцёк, што выходзіў наўпрост на сходні, пад ногі заўзятарам, ці як тыя легендарныя «сіямскія пісуары», што здзіўлена «глядзелі» адзін на аднаго з суседніх сцен, ледзьве не сутыкаючыся «насамі».

## Бялград і Казань

Аднак вернемся ў сучаснасць і адзначым, што вызначыліся з месцам правядзення хатніх матчаў таксама «Шахцёр» і жодзінскае «Тарпеда».

Салігорцы пацвердзілі інсайды. З балгарскім «Лудагорцам» у кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў яны сустрэнуцца ў Бялградзе — на стадыёне з лірычнай назвай «Чукарычкі» (і таксама без гледачоў). Гэта адбудзецца 13 ліпеня, праз тыдзень пасля таго, як гарнякі спачатку згуляюць у гасцях — у Разградзе.

Цікава, што на еўракубкі ў Салігорску робяць надзвычай высокую стаўку. Не маючы асаблівых цяжкасцяў у роднай вышэйшай лізе (першыя ачкі чэмпіёны краіны страцілі толькі ў мінулую суботу — у 14-м туры!), клуб тым не менш апошнім часам падпісаў кантракты адразу з некалькімі зусім не таннымі гульцамі-замежнікамі — і гэта толькі па-першае.

Па-другое, «Шахцёр» бачыў, які наперадзе цяжкі гульнявы графік, і загадзя парупіўся пра перанос адразу двух бліжэйшых матчаў нацыянальнага чэмпіянату — меркавана, недзе на восень. Ці дапаможа гэта супраць «Лудагорца»? А калі балгар атрымаецца перамагчы, няўжо і наступныя гульні вышэйшай лігі будуць адкладзеныя? І ці правільна робіць федэрацыя, калі стварае такім чынам ільготных рэжымы для ўдзельнікаў еўракубкаў? І ці няма тут парушэння прынцыпаў роўнааддаленасці і роўных умоў для ўсіх? Ва ўсе часы такія пераносы спараджалі падобныя пытанні — і ўніверсальнага адказу на іх няма дагэтуль.

Ну і, нарэшце, пра «Тарпеда». Жодзінцы, як мы ўжо паведамлялі, на пачатку хацелі правесці свой хатні матч Лігі канферэнцый у расійскай Туле. Потым — у такіх ва расійскіх Калінінградзе альбо Хімках. Нідзе не склалася — мусіць, праз цэннік на арэнду стадыёна ці па якой іншай прычыне. Але добра, што Расія — вялікая краіна. Тарпедаўцы яшчэ крыху пахадзілі па буфеце і, падаецца, знайшлі прытулак — у Казані. Там жыве і працуе мясцовы клуб «Рубін», а непасрэдна ў горадзе ёсць некалькі арэн, дзе беларусы з горада БелАЗаў паспрабуюць пачувацца як дома. Зрэшты, гэта будзе вельмі цяжка: надта моцны супернік трапіўся на шляху — дацкі «Капенгаген».

Наогул, прагнозы на сёлетнюю еўракубкавую эпапею для беларускіх клубаў збольшага несуцяшальныя. Кожны раз шукаць стадыён для хатніх матчаў і прапрацоўваць лагістыку — так сабе асалода. А ў дадатак і цяперашні ўзровень нашых клубаў аптымізму не выклікае. Калі па выніках ліпеньскіх гульняў з чатырох удзельнікаў «выжывуць» хаця б два — ужо будзе плён.

Але ж ліпень — гэта толькі пачатак. Далей будзе ўсё цяжэй і цяжэй. Дажыць да восені — да прэстыжнага групавога раунду — сёння гэта выглядае як ружовая мроя.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у ліпені.**

## 5 ліпеня

25-годдзе сустрэне за кратамі **Вікторыя Іванаўна Гранкоўская** — студэнтка БНТУ, якую адлічылі падчас восеньскіх акцый пратэсту ў Беларусі.



Дзяўчына была затрымана 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак). Вікторыі было прад'яўлена абвінавачанне. Спачатку яе змясцілі пад варту ў СІЗА КДБ, затым перавялі ў СІЗА-1. Па справе студэнтаў праходзяць судовыя пасяджэнні.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 7 ліпеня

31 год споўніцца **Івану Генадзевічу Ракіцю** — жыхару Брэста. Супраць яго была распачата крымінальная справа



па арт. 363 КК (Супраціў супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак) за ўдзел у акцыі пратэсту 9 жніўня.

Паводле версіі абвінавачання, 9 жніўня Іван Ракіць на адной з вуліц Брэста ўдзельнічаў у несанкцыянаваным мерапрыемстве, дзе аказаў супраціў міліцыянту — падпалкоўніку міліцыі Дзягелю, — ударыў яго кулаком у сківіцу. Атрыманую супрацоўнікам траўму абвінавачанне аднесла да «лёгкіх цялесных пашкоджанняў». Ракіць на судзе сваёй віны не прызнаў.

9 сакавіка яго прызналі вінаватым і прысудзілі два з паловай года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму: менавіта такое пакаранне прасіў прызначыць пракурор. Ракіць быў узяты пад варту ў зале суда.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

38 гадоў споўніцца **Вользе Віктараўне Залатар** — актывістцы і валанцёрцы са Ждановіч. Была назіральніцай на



выбарах у 2020 годзе. Скончыла Ліцэй БДУ і Факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Мае пецярых няпоўнагадовых дзяцей.

Вольгу затрымалі 18 сакавіка, калі яна везла 10-гадовую дачку ў музычную школу. Супрацоўнікі ГУБАЗіКа развярнулі яе машыну і суправадзілі да дому. Там прайшоўператрус, пасля якога Вольгу забралі.

29 сакавіка Вользе прад'явілі абвінавачанне — «стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраўніцтва такім фарміраваннем або ўваходзячым у яго структурным падраздзяленнем» (артыкул 361-1 КК).

31 сакавіка суд Партызанскага раёна адхіліў скаргу адваката Вольгі на пастанову аб ужыванні меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

**Андрэй Уладзіміравіч Любецкі —** лекар, 18 гадоў адпрацаваў у дзіцячай лякарні №4 у Мінску сківічным хірургам. Быў валанцёрам каля ізалятара на Акрэсціна. Мае чатырох дзяцей. Жонка Андрэя Наталля Любецкая была вымушана разам з дзецьмі з'ехаць з краіны. Яна фігуравала ў «расследаванні» беларускага дзяржканала: жанчыну абвінавацілі ў перадачы падстаўных «сакрэтных дакументаў» экс-алмазаўцу Ігару Макару.

Андрэй Любецкі быў затрыманы 4 траўня. Раніцай у яго кватэру прыйшлі з вобшукам, а затым затрымалі. Любецкаму прад'явілі абвінавачанне па ч. 2 артыкула 368 Крымінальнага кодэксу (Абраза прэзідэнта).




Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 8 ліпеня

32 гады споўніцца **Віктару Сяргеевічу Іванцову** — жыхару Баранавічаў, абвінавачанаму паводле арт. 309 Крымінальнага кодэксу (Наўмыснае прывядзенне ў нягоднасць шляхоў зносін).

Абвінавачаныя — Сяргей Богдан, Уладзімір Ланкевіч і Віктар Іванцоў — праводзілі па дзве спробы заблакаваць рух чыгуначнага транспарту. Некаторыя скончыліся няўдачай, а ў двух выпадках блакаванне спрацавала: у выніку быў парушаны рух цягнікоў.



Віктар Іванцоў асуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

## 9 ліпеня



25-годдзе сустрэне за кратамі **Міхаіл Іванавіч Калішук.** Ён быў затрыманы і збіты супрацоўнікамі АМАПу 10 жніўня ў Брэсце. 11 жніўня Міхаіла адпусцілі.

31 жніўня яго паўторна затрымалі па падазрэнні ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

У Ленінскім судзе Брэста 21 траўня вынеслі прысуды па крымінальнай справе аб масавых беспарадках пасля выбараў (ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса) 13 брэстаўчанам. Суддзя Андрэй Грушко асудзіў 11 палітвязняў на тэрміны ад 3,5 да 5 гадоў калоніі, дваіх няпоўнагадовых — да 3 гадоў выхаваўчай калоніі.

Міхаіл Калішук атрымаў 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

## 10 ліпеня

21 год споўніцца **Уладзіславу Уладзіміравічу Зяневічу** — антыфашысту з Мінска.

Быў затрыманы 30 лістапада ў рамка крымінальнай справы, распачатай паводле арт. 342.1 КК РБ (Удзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць гра-



мадскі парадак). Заключаны пад варту на 2 месяцы.

Раней Уладзіслава таксама затрымлівалі на нядзельным маршы 1 лістапада, моцна збілі, на наступны дзень прысудзілі штраф у 30 б. в. Таксама ў яго кватэры быў праведзены ператрус.

Суд Ленінскага раёна пакараў палітзняволенага трыма гадамі абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу — «хіміі».

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №26. 231724, Гродзенскі раён, в. Гіновічы, 1.

27-годдзе за кратамі сустрэне **Тамаз Важавіч Піпія** — футбольны заўзятар клуба «МТЗ-РІПА».



Быў затрыманы 26 верасня ў Гродне па падазрэнні ў арганізацыі масавых беспарадкаў 23 верасня, пасля таемнай інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер адбываюцца судовыя пасяджэнні.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

45-годдзе за кратамі сустрэне **Аляксандр Дзмітрыевіч Міронаў —** жыхар Мінска, асуджаны на тры гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу па артыкуле 342 Крымінальнага кодэксу (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак). Крымінальная справа была заведзеная за ўдзел Аляксандра ў акцыі — шэсці ў Курапаты 1 лістапада.



Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №24. 230025, г. Гродна, вул. Лідская, 29 Б.

41 год споўніцца **Дзмітрыю Уладзіміравічу Караткевічу** — дырэктару Прадстаўніцтва АТ «Grand medical group».

Быў затрыманы 4 верасня за тое, што, згодна з абвінавачаннем, здзейсніў гвалт у



дачыненні да ўчастковага міліцыянта падчас акцыі пратэсту на Лагойскім тракце ў Мінску, а менавіта — распыліў яму ў твар пярцовы аэразоль.

13 лістапада суд Савецкага раёна Мінска прызначыў яму пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба.

## 11 ліпеня

35-годдзе за кратамі сустрэне **Сяргей Сяргеевіч Спарыш** — актывіст партыі «Народная грамада». Ён быў затрыманы 25 чэрвеня супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным, якія з прымяненнем фізічнай сілы выцягнулі яго з кватэры. Падставай для затрымання стаў раней вынесены Сяргею Спарышу адміністрацыйны арышт на 15 сутак за ўскладанне кветак на Вайсковых могілках у Мінску 8 траўня гэтага года.

9 ліпеня стала вядома, што ў дачыненні да Сяргея Спарыша распачата крымінальная справа паводле ч.1 арт. 342 КК (Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) па падзеях 29 траўня ў Гродне.



Сяргея Спарыша перавялі ў СІЗА-1 на вул. Валадарскага і прад'явілі абвінавачанне.

7 траўня ў Мінскім абласным судзе вынесеныя прысуды фігурантам справы па тэлеграм-канале «Армія з народам». Сяргей Спарыш асуджаны да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1104

Падпісана да друку 01.07.2021. 8.00. Наклад 6000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.